*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
26
ЛІПЕНЯ
1991 г.
№ 30 (3596)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

# ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА,

альбо

# ПАЎТАРЭННЕ НЯПРОЙДЗЕНАГА

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет рэспублікі, «выяўляючы волю народа», урачыста абвясціў «поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах». Так была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

На старонках гэтага нумара, прымеркаванага да першых угодкаў знамянальнай падзеі, мы вырашылі тэкст дэкларацыі ўзнавіць. Так бы мовіць, вярнуцца да надрукаванага летась. Яшчэ раз перачытаць (камусьці, зусім не выключана, прачытаць упершыню) дванаццаць артыкулаў дакумента, асэнсаваць іх з адлегласці пражытага года, з улікам падзей, якія адбыліся за гэты час. Зрабіць гэта тым больш трэба, бо з жалем даводзіцца прызнаць, што ўрачыста абвешчанае нашым парламентам год назад усяго толькі слізганула па паверхні грамадскай свядомасці, істотна яе не перайначыўшы, не надаўшы ёй новай якасці. У поўным сэнсе дэкларацыя рызыкуе паўтарыць лёс статутных грамат БНР.

Паўтарэнне няпройдзенага?

«Мабыць, для таго, каб дакументы такога роду адпавядалі свайму наміналу, патрэбны адпаведны палітычны ўзровень народнай свядомасці, выразна дэмакратычная воля яго кіраўніцтва», — так летась на лімаўскіх старонках прынцыпы дэкларацыі каменціраваў Васіль Быкаў. І рабіў наступную выснову: «Відаць, ажыццявіць суверэннасць магчыма толькі ва ўмовах суверэнітэту, — во ў чым парадокс часу».

Сёння відавочна, што многія палажэнні дэкларацыі застаюцца добрымі пажаданнямі, некаторыя і ўвогуле дэзавуіраваныя. Не вырашана на заканадаўчым узроўні пытанне аб грамадзянстве; патрабаванне ад саюзнага ўрада «безумоўнай і тэрміновай» кампенсацыі чарнобыльскіх страт не гучыць так настойліва, як раней; вайсковыя аб'екты, якімі нашпігавана Беларусь, функцыянуюць, не зважаючы на тое, што «Беларуская ССР мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы»...

Што і казаць, калі сам Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Мікалай Дзямянцей, разважаючы з нагоды гадавіны дэкларацыі, не вельмі ўпэўнена балансуе паміж тым, што «исходя из общепринятых во всем цивилизованном мире правовых норм, да и с точки элементарного здравого смысла никак нельзя признать нормальным, что какая-то часть государства вдруг ни с того, ни с сего (! — А. Г.) заявляет о своей полной юридической, политической и экономической самостоятельности», — і тым, што ўсё-такі гэты працэс «в основе своей... прогрессивен и в перспективе даст конструктивные результаты».

**...Летась, у дні, калі вырашалася пытанне аб тым, якім будзе суверэнітэт для Беларусі, мы змясцілі на вокладцы здымак свежай раллі. Сёлета — спыніліся на гэтай фатаграфіі. Закінуты калодзеж сярод поля... Але ж сцежка да яго — пратаптаная, і абапал яе штосьці вырасла...**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



Фота А. КЛЕШЧУКА.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі,**

**выяўляючы волю народа Беларускай ССР,**

**усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,**

**пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,**

**сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,**

**лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,**

**дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнароднаправавымі актамі,**

**урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.**

### АРТЫКУЛ 1

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

Неад'емныя правы Беларускай ССР як суверэннай дзяржавы рэалізуюцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Беларуская ССР ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа.

Беларуская ССР мае свой герб, сцяг і гімн.

Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці Беларускай ССР з боку палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў ці асоб праследуюцца па закону.

### АРТЫКУЛ 2

Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Яго паўнаўладдзе рэалізуецца непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады.

Права выступаць ад імя ўсяго народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 3

Дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР сцвярджаецца ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР і яе міжнароднымі абавязацельствамі.

### АРТЫКУЛ 4

Грамадзянства Беларускай ССР з'яўляецца неад'емнай часткай яе суверэнітэту. Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, забяспечвае іх сацыяльную абароненасць. Яны знаходзяцца пад яе абаронай, будучы за межамі Беларускай ССР. Рэспубліка прымае ў грамадзянства і вырашае пытанне аб выхадзе з грамадзянства.

### АРТЫКУЛ 5

Зямля, яе нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Беларускай ССР, паветраная прастора з'яўляюцца ўласнасцю беларускага народа, якому належаць выключныя правы валодання, карыстання і распараджэння імі.

Вызначэнне прававога рэжыму ўсіх відаў маёмасці адносіцца да выключнай кампетэнцыі Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці адпаведна ўкладу беларускага народа і як рэспубліка — заснавальніца Савецкага Саюза, якая была яго прававым суб'ектам, мае права на сваю долю ад алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу СССР.

Беларуская ССР утварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму, пацвярджае права ўласнасці на спецыялізаваныя банкі, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі на момант прыняцця гэтай Дэкларацыі, арганізуе ўласныя падатковую і мытную службы; мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.

### АРТЫКУЛ 6

Тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Беларускай ССР.

Усе пытанні аб граніцах толькі на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і сумежнымі суверэннымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 7

На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР.

Усе грамадзяне і асобы без грамадзянства, дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія знаходзяцца або дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай ССР, абавязаны выконваць заканадаўства Беларускай ССР.

Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы.

Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР, які назначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 8

Беларуская ССР самастойна ўстанаўлівае парадак арганізацыі на тэрыторыі рэспублікі аховы прыроды, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забяспечвае народу рэспублікі экалагічную бяспеку.

Беларуская ССР мае права на пакрыццё страт, нанесеных ёй дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаў.

Беларуская ССР патрабуе ад Урада СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі страт, звязаных з пераадоленнем наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская ССР у першую чаргу выкарыстоўвае на выратаванне народа Беларускай ССР ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

### АРТЫКУЛ 9

Беларуская ССР самастойная ў рашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання.

Беларуская ССР забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі.

Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Беларускай ССР з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе грамадзян.

### АРТЫКУЛ 10

Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, службы ў органах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, вырашаць пытанні размяшчэння войск і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.

Ніякія вайсковыя фармаванні іншых краін, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаны на тэрыторыі Беларускай ССР без згоды яе Вярхоўнага Савета.

Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай.

### АРТЫКУЛ 11

Беларуская ССР самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотны саюз з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў.

Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавору аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў.

### АРТЫКУЛ 12

Палажэнні дадзенай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР шляхам прыняцця новай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР, законаў Беларускай ССР.

27 ліпеня 1990 года.
г. Мінск.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# СВЯТОЕ ПРАВА НАЦЫІ

На мой погляд, нацыянальная ідэя — самая магутная і жыццяздольная з усіх ідэй, якія ўзнікаюць пры разбурэнні камуністычных міфаў. Яна абапіраецца на вельмі моцнае і непасрэднае адчуванне роднай зямлі, мовы маці, бацькоўскага дому. Яна не вымагае для свайго засваення ні адпаведнага інтэлектуальнага і культурнага ўзроўню, ні дэмакратычных традыцый у грамадстве, і таму вельмі хутка і магутна ахоплівае шырокія масы. Па хуткасці і сіле распаўсюджання з ёй не могуць сапернічаць ні ідэя рэлігійнага адраджэння, ні дэмакратычная ідэя. Большасць рэспублік, якія дамагліся або амаль дамагліся рэальнай незалежнасці, атрымалі яе на хвалі нацыянальнага руху.

Але калі нацыянальны рух апярэджвае дэмакратычны, самая вялікая небяспека для дэмакратыі — гэта таталітарызм, і не толькі знешні таталітарызм сістэмы, а і таталітарны менталітэт. Народы, якія доўгія гады знаходзіліся пад прэсам імперскага цэнтра, вызваляючыся ад гэтага прэса, далёка не адразу вызваляюцца ад таталітарнай псіхалогіі. У іх імкненні да незалежнасці прысутнічае эфект маятніка. Калі нацыянальнае пачуццё і нацыянальны гонар народа доўгія гады прыціскаліся, набываючы свабоду, ён імкнецца самасцвердзіцца за кошт нацыянальных груп, якія жывуць побач, у першую чаргу, за кошт рускамоўных, якія атаясамліваюцца з суб'ектам прыгнёту. Што і выяўляецца ў рэспубліках Прыбалтыкі (для даведкі, на міжнароднай канферэнцыі ў Гаазе шэраг законаў, прынятых парламентам Латвіі, кваліфікаваны як «таталітарныя»).

Калі незалежнасць трактуецца як пераважна нацыянальная, а не пераважна дзяржаўная, гэта ставіць іншыя нацыянальныя групы ў двухсэнсавае становішча. Многія гады пражылі яна на «чужой» зямлі, не ўсведамляючы, што яна чужая. Яны прывыклі адчуваць сябе грамадзянамі СССР. Аказаўшыся раптам нечаканымі гасцямі ў чужым доме, многія з гэтых людзей знаходзяцца ў стрэсавай сітуацыі. Ці трэба даводзіць іх да гэтага? Верагодна, было б лепей, калі б рускамоўнаму насельніцтву памаглі пазбавіцца комплексу «старэйшага брата» і інтэгравацца ў новых умовах.

Суверэнітэт — неад'емнае і святое права любой нацыі і неабходная ўмова яе развіцця. Але, як сведчыць практыка, сам па сабе суверэнітэт не гарантуе ні дэмакратычнасці, ні багацця грамадства. У гэтым сэнсе беларуская сітуацыя выглядае адмыслова.

Няшмат знойдзецца ў свеце нацый, якія так мала, як мы, карыстаюцца роднай мовай, валодаюць сваёй культурай і ведаюць уласную гісторыю. А ў пачатку ж XX стагоддзя быў магутны рэнесанс беларускай культуры і беларускай самасвядомасці. Але, відаць, няшчасная доля ў нашага народа...

Пасля таго, як у канцы 20-х гадоў была рэпрэсіравана, знішчана амаль уся нацыянальная інтэлігенцыя, адзіным захавальнікам і носьбітам мовы засталася вёска. Аднак дзякуючы калгаснаму ладу самі словы «вясковец», «калгаснік» сталі сінонімамі цемнаты, забітасці, заганнасці. Гэтыя ацэнкі распаўсюдзіліся з носьбітаў мовы на саму мову, а вёска ўсё больш старэла і пусцела. Ратуючы дзяцей ад калгаснай баршчыны, бацькі з усіх сіл стараліся выправіць іх у гарады. Нацыянальнае апірышча спакваля нішчылася.

Дэнацыяналізацыя нарадзіла ў рэспубліцы парадаксальную палітычную сітуацыю: большая частка беларусаў нацыянальнага прыгнечання не адчувае. Роднай мовы ў нас няма? Дык і не трэба! Мы і рускай добра абыходзімся. Дзяцей нельга вучыць на беларускай? А навошта? Нам і так някепска! Яшчэ б каўбасу і мяса ад нас не цягнулі, зусім было б добра!

Відаць, пройдзе яшчэ нямала часу, пакуль большасць нацыі ўсвядоміць, што адабралі ў нас не толькі каўбасу і мяса, а і культуру, мову і магчымасць самім вырашаць свой лёс. Цяпер жа мы знаходзімся ў амаль трагічнай сітуацыі: інтэлігенцыя стараецца адрадзіць мову і культуру, але большасці народа яны яшчэ не патрэбны. Бадай, наўрад ці варта разлічваць на з'яўленне ў бліжэйшы час магутнай хвалі нацыянальнага руху, якая вынесе нас да рэальнага суверэнітэту.

Спадзеючыся на апошняе, мы аказваемся ў зачараваным коле: для адраджэння патрэбен суверэнітэт, а суверэнітэт немагчымы без адраджэння. Выйсце я бачу ў тым, каб разглядаць наш суверэнітэт як працэс, які будзе ўсё больш зліццца з патрэбнасцю адраджэння нацыі. Пакуль жа патрабаванне суверэнітэту — гэта ў большай ступені эканамічнае і палітычнае патрабаванне, чым нацыянальнае. Гэта, перш за ўсё, патрэбнасць незалежнасці і дэмакратызацыі эканомікі і палітыкі. На мой погляд, Беларусь, магчыма, адзіная рэспубліка, дзе пакуль ёсць магчымасць гарманічна спалучаць нацыянальны рух з дэмакратычным. Гэтае спалучэнне дасць гарантыю, што наш шлях да суверэнітэту будзе цывілізаваным, што на гэтым шляху мы не страцім характэрнай нашаму народу талерантнасці, што пабудаваная намі суверэнная дзяржава будзе адначасова і дэмакратычнай.

**Таццяна ПАЛЯКОВА,**
**інжынер АКБ «Альфа»,**
**сябра БСДГ.**

## «ПЕРШАЯ ВЯХА ПА ДАРОЗЕ ДА СВЯТА»

(Пачатак на стар. 2).

Вельмі хацелася б, каб у нялёгкіх думах аб тым, як ажыццяўляць абвешчаны суверэнітэт, нашы дзяржаўныя мужы непараўнана больш, чым дагэтуль, аддавалі ўвагі, сіл і часу нацыянальна - культурнаму адраджэнню Беларусі, аднаўленню нашай гісторыі, народных традыцый і звычаяў, развіццю беларускай літаратуры і мастацтва, а найперш — законнаму пераводу беларускай мовы ў становішча дзяржаўнай. Менавіта ўсё гэта дапаможа развіць нашу нацыянальную самасвядомасць да такой ступені і ў такіх маштабах, якія толькі і дазволяць Беларусі набыць у рэшце рэшт рэальны суверэнітэт. Падкрэсліваю: Беларусі, а не «северо-западному краю». І — рэальны, а не фіктыўны, не папяровы. Іншымі словамі, трэба пачынаць з душы народа: як толькі даспее да суверэннасці яго вялікая, дзесяцімільённая душа — тады і вырашацца практычна, і ажыццявяцца ўсе праграмныя пункты прынятае год назад Дэкларацыі. Бяда, аднак, у тым, што нацыянальнае абязлічванне беларускага народа працягваецца; больш таго — ва ўмовах пераходу да рынкавых адносін працэс дэнацыяналізацыі беларускай культуры ўзмацніўся, беларускае друкаванае слова аказалася літаральна прыдушаным пад грузам соцень новых рускамоўных выданняў, у тым ліку беларуская кніга—пад манбланамі выдаваемай у нас на рускай мове пошласці, дурману і дурноты. Не лепшае становішча з родным словам і на рэспубліканскім тэлебачанні. Трохі больш шчыруе на яго карысць Беларускае радыё. На шматлікіх эстрадных пляцоўках таксама пануе небеларускае слова (нязначныя выняткі пагоды не робяць). Пералік падобных фактаў можна доўжыць і доўжыць, але ў гэтым няма патрэбы: яны так на кожным кроку б'юць у вочы, што застаецца адно здзіўляцца нашай нехлямяжасці, нашай пачварнай раўнадушнасці да свайго ўласнага лёсу.

Дык з вялікім нацыянальным святам, сябры! Сёння яно яшчэ толькі ў нашых думках, але калі мы ўсе разам моцна захочам — яно будзе і на нашай беларускай вуліцы.

# ТРЫ ПРЫСТУПКІ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Дэмакратычныя палітычныя сілы, зацікаўленыя ў абнаўленні сістэмы ўлады ў рэспубліцы, могуць прыйсці да згоды, узыходзячы на тры прыступкі да «суверэнізацыі» Беларусі: фарміраванне пераходнага (кааліцыйнага) ураду; прыняцце праз рэферэндум Канстытуцыі вольнай Беларусі; усенародныя выбары прэзідэнта. Агульны палітычны інтарэс дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў рэспублікі выяўляецца і ў прыхільных адносінах да заключэння двухі шматбаковых дагавораў паміж суверэннымі дзяржавамі ў межах СССР і шырэй у галіне эканомікі, сферах рэгулявання рынку працоўных рэсурсаў, абароны сацыяльных і грамадзянскіх правоў чалавека і інш.

За пэўны пераходны перыяд, калі будзе ісці ўсенароднае абмеркаванне праекта Канстытуцыі Беларусі, палітычныя сілы рэспублікі будуць мець магчымасць самавызначацца, а народ Беларусі выявіць свае палітычныя сімпатыі. Пасля гэтага, пры ўмове адзінства дэмакратычных сіл і на аснове новага закона аб выбарах Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і закона аб прэзідэнце рэспублікі,адкрываецца магчымасць карэннай рэформы ўлады.

Зыходзячы з эгаістычных інтарэсаў кампартэліты, кіраўніцтва КПБ спрабуе навязаць Беларусі адваротны курс: праз заключэнне Саюзнага дагавору і выбары Прэзідэнта Беларускай ССР да новай Канстытуцыі рэспублікі. Аднак заключэнне прапанаванага «дзесяткай» Саюзнага дагавору да «ўзыходжання» Беларусі на адзначаныя вышэй тры прыступкі «суверэнізацыі» можна лічыць актам самагубства суверэннай рэспублікі. Беларусь, на вялікі жаль, за сваю тысячагадовую гісторыю тройчы перажыла трагедыю, звязаную з увахоДжаннем у склад саюзнай дзяржавы і стратай у далейшым суверэнітэту, разбурэннем гаспадаркі, культуры, усяго нацыянальнага арганізма.

Войны і спустошэнні прынёс Полацкаму Княству саюз з Кіеўскай Руссю. Трагічныя вынікі мела унія — Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам, хаця, здавалася б, Княства захавала ў складзе канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай нават такія адзнакі суверэнітэту, як уласнае войска, грошы, заканадаўства. Калі не браць пад увагу анексію беларускіх зямель Расійскай імперыяй у канцы XVIII стагоддзя пасля разбуральных войнаў і стыхійных бедстваў, у выніку якіх загінула ледзь не палова жыхароў Беларусі, то трэці раз Саюзны дагавор беларускім дзяржаўным утварэннем быў заключаны ў 1922 годзе. У склад СССР увайшла ўтвораная ў 1919 годзе насуперак волі наркамнаца Сталіна і яго паплечнікаў Беларуская ССР, якая бачылася яе «творцамі» часовай з'явай на карце Еўропы. Так быў утвораны «союз нерушимый» рэспублік бяспраўных, г. зн. палітычных зданяў...

Унітарная сутнасць СССР яскрава выявілася ў адносінах да тэрытарыяльнай цэласнасці Беларускай ССР з боку саюзных дзяржаўна-палітычных структур. Пасля Рыжскага мірнага дагавору 1921 года, заключанага без удзелу БССР паміж РСФСР, УССР і Польшчай з «бацькоўскай» ласкі Расійскай камуністычнай партыі, Беларуская ССР складалася з 6 паветаў з тэрыторыяй 52,4 тыс. кв. км. і насельніцтвам 1 млн. 634 тыс. чалавек. У той час як на этнічных землях беларусаў жыло насельніцтва колькасцю звыш 12 млн. чалавек. Такім чынам, за самы няўдалы для беларускага народа палітычны саюз 1922 года пераважная большасць беларусаў не мела магчымасці выказацца ні «за» ні «супраць». Пазней у 1939 і 1946 гг. значная частка Беларусі то «далучалася» да БССР (Заходняя Беларусь), то перадавалася іншай дзяржаве (Беластоцкі край). Народ Беларусі даведваўся аб гэтым з інфармацыйных паведамленняў саюзнага ўрада, які не абцяжарваў сябе клопатам узгадняць важнейшыя пытанні жыццядзейнасці «суверэннай» рэспублікі з яе ўрадам і выяўляць волю яе народа.

Разам з тым, умовай заключэння на той ці іншай аснове новага Саюзнага дагавору ці двухбаковых пагадненняў з адпаведнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі Беларускай ССР неабходна ставіць дэнансацыю на аснове міжнароднага права ганебнага Рыжскага дагавору 1921 года. Гэта не толькі зыходзіць з меркаванняў маральна-палітычнага характару, але і ў перспектыве створыць прававую аснову для вяртання Беларусі велізарных скарбаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, музейных збораў, архіваў, якія на падставе азначанага дагавору былі перададзены Польшчы.

Адабрэнне Вярхоўным Саветам БССР канцэпцыі ініцыіраванага «Цэнтрам» тэксту Саюзнага дагавору адлюстроўвае імкненне кампартнаменклатуры да захавання асновы сваёй антынароднай улады — «союза нерушимого».

Патрабаваць заключэння новага Саюзнага дагавору без папярэдняга аднаўлення інстытутаў дзяржаўнасці рэспублікі, якія створаць умовы жыцця ў новым маральна-прававым вымярэнні на аснове дэмакратычных законаў аб грамадзянстве, аб уласнасці, аб зямлі і г. д., можа толькі палітычны авантурыст або палітык, абыякавы да лёсу народа Беларусі. У гэтым сэнсе дзеячам некаторых палітычных асацыяцый рэспублікі, і перш за ўсё КПБ, не хапае здаровага нацыянальнага эгаізму і здаровага імкнення быць самімі сабою і роўнымі сярод роўных.

Стачкомы, некаторыя грамадска-палітычныя аб'яднанні Беларусі ставяць пытанне аб скліканні «круглага стала» ўсіх палітычных сіл рэспублікі і фарміраванні кааліцыйнага ўрада «народнага даверу». Аднак тыя сілы, якія пераважаюць у кіраўніцтве КПБ і кантралюемых імі структурах дзяржаўнай улады *панічна баяцца* страты манаполіі на яе і па сваёй прыродзе не могуць быць надзейнымі партнёрамі ў кааліцыйным урадзе, таму апошні ніяк не можа стаць урадам народнага даверу. У гэтых умовах перспектыву мае спроба фарміравання *п е р а х о д н а г а ў р а д а* —на час выпрацоўкі і прыняцця праз рэферэндум новай Канстытуцыі рэспублікі і ўсенародных выбараў прэзідэнта Беларусі.

Дэмакратычныя палітычныя аб'яднанні, і перш за ўсё тыя, якія маюць дэпутацкія групы і фракцыі ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР і ў мясцовых Саветах народных дэпутатаў, могуць сабраць інтэлектуальныя сілы для кіравання міністэрствамі ў сацыяльна-культурных сферах грамадскага жыцця. Такімі з'яўляюцца Дзяржкампрацы, Дзяржтэлерадыё, Міністэрствы сацыяльнага забеспячэння, адукацыі, культуры, замежных спраў і некаторыя іншыя. Пры гэтым нельга спакушацца і даваць згоду на кіраванне дзяржаўнымі органамі і ўстановамі ў *сферы эканомікі ва ўмовах*, калі няма канцэпцыі дзейснай эканамічнай рэформы, а ў правячай большасці і палітычнай волі яе выпрацаваць і здзейсніць.

Аднак трэба ўлічваць, што прыведзеныя вышэй разважанні *грунтуюцца на ўмоўна-тэарэтычнай* аснове. Бо малаверагодна, што кампартнаменклатура, якая імкнецца захаваць у рэспубліцы непадзельную ўладу, сядзе за стол перагавораў з апазіцыйнымі структурамі. Наадварот, яна патрабуе ад камуністаў «выйсці з акопаў» і ініцыіравала не толькі «драконаўскія» праекты законаў аб надзвычайным становішчы, аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж органамі заканадаўчай і выканаўчай улады, але і актыўна «праводзіла» праз Вярхоўны Савет *рашэнне* аб выбранні першага прэзідэнта Беларусі непасрэдна на сесіі. Няўдала скончылася спроба партапарату, перавешваючы рукамі народных дэпутатаў Беларускай ССР першую шыльду рэспублікі з будынка ЦК КПБ на будынак прэзідэнцкага палаца, «ашчаслівіць» народ суверэннай дзяржавы, пасадзіўшы «на куце» паслухмянага рэзідэнта кампартнаменклатуры.

Сёння ёсць усе падставы меркаваць, што грамадска-палітычныя аб'яднанні рэспублікі, *зацікаўленыя ў правядзенні дэмакратычных* рэформ, да якіх належыць і Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, могуць сесці за «круглы стол» і на прынцыповай аснове Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР прыйсці *да палітычнай* згоды, выпрацоўваючы канцэпцыю ўсталявання дэмакратычнага канстытуцыйнага ладу ў Беларусі. За выключэннем цяперашняга кіраўніцтва ЦК КПБ, якое выявіла антыдэмакратызм, нянавісць да іншадумства і яскрава засведчыла сваю «вернападданасць» збанкрутаванаму камуністычнаму «цэнтру», за «круглым сталом» ёсць месца любым палітычным сілам, якія адчуваюць падтрымку народа і маюць нерастрачаны палітычны капітал. **Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада**, па глыбокаму перакананню аўтара гэтых радкоў, са свайго боку выяўляе, як партыя рэформаў і дыялогу з усімі дэмакратычнымі сіламі, гарачую прыхільнасць да супольнага вырашэння праблем, якія паўсталі перад рэспублікай.

**Я. ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат БССР.**

**ПАМЯРКУЕМ**

# Я, ты, ён... і партыя

Яе дасюль можна называць так, у адзіночным ліку, і ніхто не зблытае з якой-небудзь іншай, нованароджанай. А гаворку я павяду пра **ахайванне** партыі. Гэты не пазбаўлены экспрэсіі дзеяслоў *—«ахайваць»— падабрала яна сама*. Ёсць яшчэ нямала падобных, адпаведнага зместу: «узводзіць паклёп», «ачарняць», «замахвацца на аўтарытэт»... Дзіўна, як шэры «наваязаўскі» партыйна - газетны слэнг расквеціўся ўсімі колерамі жывой мовы, калі давялося заняць кругавую абарону. Паболела жывых, чалавечых інтанацый і ў вусных выступленнях. А галоўнае — змяніліся аргументы. Не хто іншы, а менавіта партыя апелюе да правоў чалавека (!), згадвае пра свяшчэннае права на ўласнасць, усё больш рашуча ківае ў бок Закона. І гэта яна,— што ў лепшыя для сябе часы аб гэты самы Закон траха ногі не выцірала, ды і ў горшыя, цяперашнія, можа перакруціць і адвольна інтэрпрэтаваць любое яго палажэнне! Памятаеце гвалт вакол «вандалізму» на плошчы Леніна?

А найбольшым, наймацнейшым аргументам у сваю карысць партыя, прынамсі, яе адгалінаванне — КПБ, лічыць наступны (неаднойчы выказваўся ў мясцовых органах друку і па радыё радавымі камуністамі). Маўляў, як можна ахайваць **усю** партыю? Я вось, як і многія іншыя яе члены, сумленна працаваў на сваім рабочым месце, нічога благога не рабіў, ніякіх прывілеяў і выгод ад свайго членства не меў, і таму мне крыўдна за партыю. Так прыблізна разважаюць.

На першы погляд, тут сапраўды заключана супярэчнасць. Бо калі і я, і ты, і ён не спрычыніліся да злачынстваў, дык значыць партыя не з адных нягоднікаў складаецца і нельга яе вінаваціць усю агулам.

Людзі, што разважаюць вышэйпрыведзеным чынам, дапускаюць чыста лагічны хіб. РКП(б) — ВКП(б) — КПСС зусім неабавязкова было мець у сваім складзе адных прайдзісветаў ды маральна заганных асоб, каб здзейснілася тое, што здзейснілася за час яе панавання. Тут справа не ў асобных людскіх складніках, не ў радавой масе і нават не ў кіруючай,— у механізме выпрацоўкі і правядзення ў жыццё пэўных установак і рашэнняў, у сістэме падбору кадраў, у многім іншым, чаму цяжка знайсці слоўны эквівалент. Карацей кажучы, вы асабіста можаце быць бязгрэшным анёлам, але **арганізацыя** паставіць вас на службу сваім нялюдскім пачынанням (што «апраўданы» высакароднымі мэтамі), і ніякія вашы вартасці тут ужо не будуць мець значэння.

Задумаліся б нашы дамарослыя «адвакаты», перш чым публічна дэманстраваць сваю, мякка кажучы, наіўнасць. Перад фактам мільёнаў ахвяр (трэскі ляцяць?) і безлічы буйных і дробных беззаконняў крыўдзіцца за гонар партыі свядомаму чалавеку неяк не выпадае.

Па сутнасці, гэта злавесная, фатальна *запраграмаваная сістэма, пры якой* нашы чалавечыя, грамадзянскія, прафесійныя якасці не аказваюць уплыву на агульную палітыку, калі ад мяне, цябе, яго патрабуецца толькі рэгулярна плаціць складкі ды маўкліва падымаць руку «за».

Адным маўчаннем, праўда, не абыходзіўся партыйна-дзяржаўны савецкі сіямскі блізнец: ён арганізоўваў гучную «ўсенародную» падтрымку праз найбольш падатлівых і гнуткіх хрыбтамі — практычна кожнай са сваіх шматлікіх кампаній. Ён і цяпер яшчэ робіць сутаргавыя намаганні вярнуцца да былога стану рэчаў — зноў жа праз падатлівых, не прывыкшых думаць, а то і проста задубелых у бальшавізме. Строга судзіць іх, можа, і не варта. Мне асабіста бывае шкада гэтых людзей.

Нельга без жалю глядзець сёння і на нядаўніх гаспадароў жыцця — не тая, зусім не тая пастава. Колісь не было для іх нічога невырашальнага — працаўладкаваць некага, кватэру выбіць, судовую справу замяць, аказаць любую іншую паслугу... Пры вялізнай, неабмежаванай уладзе, яны займаліся, скажам прама, болей прыватнымі і асабістымі пытаннямі, чымся дзяржаўнымі, яны расходавалі сваю магутнасць на дробязі. Хаця пры **такой** ступені ўлады, пры іх магчымасцях, пры падтрымцы арміі, міліцыі, КПБ можна было б куды лепей наладзіць і прамысловасць, і планаванне, і побыт народа, і што заўгодна.

Яны і зараз шмат карыснага маглі б зрабіць, каб не прыкрае адчуванне тупіка, каб не боязь спатыкнуцца на чым-небудзь, падставіцца пад бязлітасную крытыку. Прападае, расходуецца на марную барацьбу, на безвыніковую тузаніну, проста на бяздзейнасць усё яшчэ агромністая, няблага арганізаваная сіла. Менавіта з усведамленнем апошняга і «адпачкаваліся», мабыць, ад КПСС Шэварднадзе і К° — з мэтай вывесці ў прарыў усё лепшае і здаровае, што па інерцыі працягвае існаваць у у рамках партыі і што можа пайсці на дно разам з артадаксальнай палітыкай.

Пабачым, што там будзе ў **іх**. У нас жа ёсць Грамада — пакуль што не сіла, а толькі ядро сілы, толькі парастак на ўдзірванелай глебе заглухшай традыцыі. Чым здзіўляе мяне новая арганізацыя, дык гэта поўным нежаданнем гучна і па-кампанейску вербаваць сабе членаў. Гэта так непадобна на ўсё вядомае, што *хочацца верыць: ствараецца* сапраўды **парламенцкая** партыя...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

Генадзь БУРАЎКІН,

Пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР у ААН:

# «СВЕТ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ АПЛАЧВАЦЬ НАШЫ ПАМЫЛКІ»



**Пад час нашай працяглай гутаркі Генадзь Мікалаевіч, сярод іншага, падзяліўся такой трывогай: «Доўгі час мы ганарыліся і, здавалася б, небеспадстаўна, сваімі творцамі, увогуле мастацкай інтэлігенцыяй... А вось калі надарыўся перыяд балючага, а часта і трагічнага, пераасэнсавання каштоўнасцей, — аказалася, што гэтай інтэлігенцыі быццам бы і няма. Можна, вядома, назваць дзесятак імёнаў людзей, якія ў святасці і чысціні захавалі душу сапраўдных барацьбітоў. А дзе астатнія? Дзе той пласт — мы ж лічылі, што ў нас ёсць цэлы пласт, атрад і г. д., — дзе ён, куды падзеўся? Або ён не хоча чуць і бачыць таго, што робіцца ў свеце, не хоча асэнсоўваць, — або, даруйце, ён «куплены» нейкімі дабротамі, якія даражэй для яго, чым лёс народа. У чым справа? Я гэтае пытанне сабе пастаянна задаю і не магу знайсці адназначнага адказу...»**

**За той год, што Генадзь Бураўкін правёў на дыпламатычнай рабоце ў Нью-Ёрку, тут на радзіме, адбылося нямала значных падзей. Істотна ўзбагаціўся спектр грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі. Досыць часта ўзнікалі такія сітуацыі, калі, адстойваючы выбар на карысць дэмакратыі, суверэнітэту, Адраджэння, — нельга было менавіта «дыпламатнічаць». Наіўна сцвярджаць, што голас Бураўкіна ў той ці іншы бок пераважыў бы шалі нашых спрэчак. Аднак голасу гэтага — гучнага, аўтарытэтнага, уплывовага — адчувальна не ставала пры заўсёдным нашым дэфіцыце — дэфіцыце асоб.**

**Мне нават падалося, што, даючы інтэрв'ю пад час нядоўгага знаходжання ў Мінску, шэф беларускай місіі ў ААН, паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін адчуваў патрэбу в ы к а з а ц ц а пасля вымушанага маўчання. У нашай гутарцы было закранута шмат праблем, я цікавіўся думкай Генадзя Мікалаевіча наконт працэсаў, якія адбываюцца на Беларусі і за разгортваннем якіх ён сочыць здаля, пра іх розгалас у свеце; гаварылі мы пра літаратурнае жыццё і, натуральна, пра службовую дзейнасць Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла. Дыктафон быў уключаны, а мой суразмоўца ацэньваў, распавядаў, палемізаваў з апанентамі...**

ДЛЯ чаго, урэшце, жыве кожны народ? Для таго, каб увайсці ў сусветную сям'ю, прынесці туды сваю гісторыю, свае таленты, свой узровень, душу сваю — і пачувацца ў гэтай сям'і годна, на роўных з іншымі.

●

Прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі — падзея гістарычная. Скажу шчыра, гэты акт безумоўна павысіў аўтарытэт нашай рэспублікі ў ААН. Памятаю, амерыканскія журналісты, калегі-дыпламаты з розных краін падыходзілі да нас, цікавіліся, віншавалі...

Але мінае час, і я вымушаны зазначыць, што праца па станаўленню рэальнага суверэнітэту Беларусі ідзе марудна і недастаткова сур'ёзна. У мяне такое ўражанне, што некаторыя дзеячы ў нас лічаць найбольш важным у свеце заявіць пра свой суверэнітэт, чым напоўніць яго зместам. Між тым, усё павінна рабіцца тут, дома. Свет нам можа дапамагчы, параіць, нават паспачуваць, але свет ніколі не будзе аплачваць нашы памылкі. Зрабіць усё павінны мы самі. Калі ў нас не будзе эканамічнай сітуацыі, якая дазваляла б нам адчуваць сябе самастойнымі; калі палітычна мы будзем увесь час азірацца на Цэнтр і чакаць ад яго ўказанняў; калі культуру сваю мы не толькі не будзем развіваць, але і, даруйце, будзем усё больш і больш заганяць у нейкія падваліны; калі дэмакратызацыю будзем толькі абвяшчаць, а не праводзіць яе настойліва ў жыццё, — то ўсе нашы дэкларацыі ў свеце будуць урэшце расцэнены альбо як добрыя пажаданні, альбо як палітычныя гульні.

●

Сур'ёзныя прадпрымальнікі, прадстаўнікі салідных замежных фірм, якія маюць цікавасць да Беларусі, прыехаўшы сюды, вельмі часта сутыкаюцца з тым, што мы самастойна не можам нічога рашыць. Не можа прыняць рашэнне дырэктар буйнога, не бяру драбязу, прадпрыемства, генеральны дырэктар аб'яднання, не можа прыняць рашэнне нават міністр. З гэтага бізнесмены робяць вывад, — калі вашы людзі такога ўзроўню не могуць кроку зрабіць самастойна, то пра які суверэнітэт ідзе гаворка?

●

Апошнім часам мы імкнёмся больш актыўна заяўляць свету, што ёсць такая рэспубліка, такая нацыя, а ў яе — адпаведныя інтарэсы. Нашы прадстаўнікі ёсць у Нью-Ёрку, Парыжы, Вене, Жэневе, яны працуюць у розных арганізацыях і рабочых органах ААН. Але нам пара пераходзіць да двухбаковых сувязей, да дзяржаўных узаемаадносін: Беларусь — Германія, Беларусь — Злучаныя Штаты... Украіна ў гэтым напрамку працуе намнога больш эфектыўна: ужо дзейнічае консульства ЗША ў Кіеве, неўзабаве мяркуецца адкрыць украінскае консульства ў Францыі.

●

Калі б у ААН даведаліся, што ў Мінску на старонках нейкіх дзіўных, часам ананімных і занадта порсткіх газетак ставіцца пад сумненне мэтазгоднасць удзелу Беларусі ў дзейнасці гэтай сусветнай арганізацыі — маўляў, гэта каштуе немалых грошай, на якія нібыта нехта раскашуе, — то, напэўна, вышкаленыя і стрыманыя дыпламаты з усяго свету дружна зарагаталі б. Сапраўды, дзе яшчэ пачуеш штосьці больш бязглуздае... Многія краіны дзесяцігоддзямі дамагаюцца прыняцця ў ААН. Гэта, калі хочаце, вышэйшае прызнанне суверэнітэту той ці іншай дзяржавы!

Кажуць, што мы быццам бы нічога не атрымліваем ад свайго членства ў ААН. Няпраўда. Напрыклад, з 20 млн. долараў, выдзеленых Японіяй па лініі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя для дапамогі ахвярам Чарнобыля, прыблізна палавіна дасталася Беларусі. Не маючы членства ў ААН, мы б гэтых грошай не атрымалі. А са аўтарства больш чым 120 краін-удзельніц — небывалая ў гісторыі ААН падзея! — у стварэнні рэзалюцыі па Чарнобылю, гэта што, пустое? Не было б гэтай рэзалюцыі, палавіна свету не ведала б пра нашу трагедыю. Ці ж не мы самі пра яе доўгі час і маўчалі, засакрэчвалі свой боль, выключаючы магчымасць эфектыўнай дапамогі з боку міжнароднай супольнасці?

●

Нас 10 чалавек — беларуская місія ў Нью-Ёрку. Чым можам імкнёмся дапамагчы чарнобыльскім ахвярам. І не толькі па афіцыйных каналах. Калі трэба, нашы дыпламаты, не лічачыся з часам, становяцца шафёрамі, перакладчыкамі, экспедытарамі... Разам з амерыканскімі кампаніямі летась сабралі лекаў, медыцынскага абсталявання, чыстых прадуктаў больш чым на мільён долараў, столькі ж сабрана ўжо сёлета, за паўгода.

Дзяцей нашых, якія прыязджаюць у ЗША на лячэнне, часта як усё роўна выганяюць адсюль, без цэнта грошай. Акрамя як да нас, ім звярнуцца ў Нью-Ёрку няма да каго. Даводзіцца нам і з шапкай па крузе ісці... Дамаўляемся, што аперацыі, якія каштуюць па 300—400 тысяч долараў, амерыканскія хірургі робяць бясплатна. Утрыманне ў шпіталях таксама каштуе шалёных грошай, — шукаем спонсараў, дабрачынныя арганізацыі альбо клічам на дапамогу нашых землякоў-эмігрантаў.

●

Мы займаем паверх у будынку, дзе размяшчаюцца таксама прадстаўніцтвы СССР і Украіны. І, ведаеце, несур'ёзныя адносіны да дзейнасці беларускіх прадстаўнікоў у міжнародных арганізацыях даволі лёгка «чытаюцца», калі прайсці па нашых пакоях, так бы мовіць, па беларускай тэрыторыі. Амаль голыя сцены... Дзякуй Уладзіміру Іванавічу Стальмашонку, які пасля сваёй леташняй выстаўкі ў Нью-Ёрку прыйшоў да нас і падарыў тры работы — партрэты Купалы, Коласа і Скарыны. Гэта — адзіны выпадак, хацеў бы, каб пра яго ведалі ў рэспубліцы. Разам з тым, я дзіўлюся, чаму няма жадання дапамагчы, каб у памяшканні беларускай місіі жыла беларуская душа?!

●

Вельмі слабая сувязь з радзімай. Мы атрымліваем інфармацыю з Мінска з вялікім спазненнем. Часта бывае так, што пра падзеі на Беларусі даведваемся з амерыканскіх крыніц. Чаму так адбываецца? Ці то гэта ідзе ад нейкай лянoты, ці то ад недаацэнкі нашай міжнароднай дзейнасці?

...У час гаворкі прадстаўнік ЗША пан Пікерынг пытаецца: якія адносіны вашага парламента да студзеньскіх падзей у Вільнюсе? А ў мяне — ніякай інфармацыі, пачынаю выкручвацца. Пазней аказваецца, што ў нас і не прынялі своечасова рэзалюцыю, а калі прынялі — не паведамілі ў тэрмін... І мы ў такіх сітуацыях з прафісійна-дыпламатычнага боку выглядаем несучасна, нецывілізавана.

●

Вельмі істотныя зрухі адбыліся ў нашых адносінах з Пастаянным прадстаўніцтвам СССР. Раней, будзем гаварыць шчыра, мы працавалі з аглядкай і пад дыктоўку «старэйшага брата». Нават хадзілі візіраваць нашы выступленні. Цяпер гэтага абсалютна няма, самастойнасць поўная. Такой была пазіцыя Шэварднадзе, такая пазіцыя Бяссмертных. Такая пазіцыя пастпрэда СССР, выдатнейшага дыпламата, вельмі інтэлігентнага і тонкага чалавека Юлія Міхайлавіча Варанцова.

●

XIX Кангрэс беларусаў Паўночнай Амерыкі, які адбыўся летась у Клiўлендзе, вітаў прэзідэнт ЗША Дж. Буш, выказваючы асаблівае задавальненне тым, што ў гэтым форуме ўпершыню ўдзельнічалі і беларусы з Беларусі. У прынятай сустрэчай рэзалюцыі выказвалася шчырая падтрымка дэмакратычных, адраджэнскіх працэсаў у нашай рэспубліцы, гучалі сур'ёзныя намеры супольна працаваць дзеля памяншэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Такія ж выданні, як «Политический собеседник», «Славянские ведомости», прэбуючы фактамі, перакручваючы іх, падалі гэтую падзею як нейкае ледзь не «прафашысцкае зборышча».

Лічу ніжэй сваёй годнасці ўсур'ёз палемізаваць з невядомымі мне аўтарамі інсінуацый. Разам з тым, асобныя факты, сабраныя разам, даюць падставу казаць, што ідзе пэўная палітычная кампанія. Ставіцца пад сумненне мандат Паўнамоцнага прадстаўніка Беларускай ССР, дадзены вярхоўнай уладай рэспублікі. Адной з маіх задач было наладжванне кантактаў з беларускай эміграцыяй. Ці, можа, змяніліся ўстаноўкі? Хацелася б, каб тыя, хто прызначаў мяне на адказную пасаду, выказаліся з гэтай нагоды публічна. Чаго мы, урэшце, хочам — каб у нас болела ворагаў ці сяброў?

●

Аналізам і вывучэннем беларускай эміграцыі мы займаемся недастаткова. А беларуская эміграцыя мае вялікую гісторыю, якая пачалася яшчэ ў XVII стагоддзі. Паводле некаторых амерыканскіх крыніц, кожная пятая беларуская сям'я мае кагосьці з родзічаў за мяжой. З 600 тысяч выхадцаў з Беларусі, якія жывуць зараз у Амерыцы, толькі 50 тысяч эміграваліі з пасляваеннай хваляй. Лёс кожнага з іх — пакручасты, часта трагічны. Мы ж не толькі не спавядаем індывідуальны падыход да нашых эмігрантаў, але і чохам можам пляжыць цэлыя пакаленні суайчыннікаў, многія з якіх праз усё жыццё пранеслі Беларусь у сваіх сэрцах.

●

Разумею, што несумленная валтузня вакол дзейнасці беларускай місіі ў ААН з'яўляецца толькі часткай, водгуллем той палітычнай барацьбы, якая адбываецца тут, на Беларусі.

Кіпень гэтай барацьбы, гэтых страсцей — так сталася — не апякае мяне штодня. Але і ў Нью-Ёрку, далёка-далёка адсюль, я застаюся са сваімі трывогамі, памкненнямі, надзеямі. Мяне хвалюе ўсё, што адбываецца ў рэспубліцы, бо я прывык быць не назіральнікам староннім, а ўдзельнікам.

●

Радасна, што ў наша жыццё, хоць і цяжка, але прыходзіць дэмакратыя. Беларусь уступіла ў новы этап развіцця. Працуе парламент, ідзе пошук новых дзяржаўных механізмаў, выяўляюцца новыя лідэры, ёсць пэўныя зрухі да лепшага.

Аднак, напрыклад, наш парламент па-ранейшаму разарваны на процілеглыя полюсы. Слаба адчуваецца ствaральны ўплыў цэнтра — разумнага, адукаванага, падрыхтаванага, разважлівага, які не адпрэчваў бы ні левых, ні правых, а браў адусюль усё разумнае.

У парламенцкіх структурах ніводнай рэспублікі так бедна, як у нас, не прадстаўлена інтэлігенцыя. А што б там ні казалі, інтэлігенцыя — гэта носьбіт свядомай народнай памяці і ўмення прадбачыць далейшы шлях. Гэта засведчана гісторыяй чалавецтва. І тут мы спажываем плады той лініі, якую праводзіла командна-адміністрацыйная сістэма, — лініі на прыніжэнне інтэлігенцыі, на выхаванне паслухмяных выканаўцаў, а не творцаў.

●

Трэба вучыцца. Давяраць не толькі сваёй гісторыі, але гісторыі і вопыту іншых народаў. Мне наогул дзіўна чуць: маўляў, што нам Расія, што нам Украіна ці Казахстан — мы самі! І гэта гаворыцца ў Беларусі, дзе заўсёды кіраўнікі стараліся прымаць рашэнні ці не апошнімі, паслухаўшы і паглядзеўшы, што робіцца ў Маскве і ў суседзяў. І раптам — такая змена «нацыянальнага характару»! Ніякая гэта не змена, а жаданне кансерватараў хоць тут, на беларускім астраўку, захаваць аджылае, заскарузлае. Дзеля гэтага яны нават на абвяшчэнні суверэнітэту згодны пайсці...

●

З'яўленне новых партый і рухаў можна толькі вітаць. Аднак наколькі сур'ёзныя яны? Наколькі я магу меркаваць, ніводная з іх пакуль што не мае ўзважанай эканамічнай праграмы, дзейнічае выключна ў палітычных і ідэалагічных сферах. Практычна няма такой грунтоўнай праграмы і ў КПБ. Тлумачу гэта тым, што ў нас амаль няма эканамічнай навукі.

Увогуле, не бачу асаблівага сэнсу ў тым, каб партый было 5—7. Даруйце, што гэта за партыя, якая не можа назваць дакладную колькасць сваіх членаў! Альбо партыя, дзе ўсе — кіраўнікі?.. Магчыма, я ўжо кансерватар, але і сусветны вопыт сведчыць, што сур'ёзных палітычных сіл у грамадстве можа быць дзве-тры, астатняе — на ўзроўні клубаў, гурткоў, аб'яднанняў па інтарэсах.

●

За мінулы год многія мае калегі, якіх я паважаю, якім давяраю, выйшлі з КПСС. Асуджаць іх за гэта нельга, тым больш нельга прыклейваць ярлыкі «перараджэнцаў», «пярэваратняў». Будучы людзьмі, якія хочуць нешта змяніць, яны выбралі для сябе іншую форму грамадскага жыцця.

А ўвогуле партыя, тая ці іншая, павінна быць «усяго толькі» адной з палітычных сіл грамадства, распрацоўваць праграмы, змагацца за галасы выбаршчыкаў. Крытэрыем яе дзейнасці павінна быць жаданне дапамагчы народу — і ўменне зрабіць гэта.

●

Па натуры я аптыміст. Хачу верыць, што ў майго народа наперадзе багатая гісторыя і вялікая дарога. Калі ж бярэш рэальнае становішча, то ўзнікае нямала падстаў для песімізму. Маю на ўвазе той нацыянальны нігілізм, які набыў жахлівыя формы... На жаль, яго не паменела. Бачу і вельмі нізкі духоўны ўзровень, калі каўбасой вымяраецца ўсё.

Колькі ўжо гісторыя вучыла — не спяшайцеся сваіх прарокаў распінаць, вам жа пасля будзе сорамна. Глядзіце, колькі было сакратароў, загадчыкаў аддзелаў, рэдактараў у тыя часы, калі жыў Купала? Прайшоў час, хто застаўся? Застаўся Купала. Дык божачка мой, колькі ж трэба ўгробіць геніяў, каб наш народ зразумеў, нарэшце, што людзей такога ўзроўню трэба пры жыцці слухаць. Бо пасля таго, як яны паміраюць, мы можам паўтарыць толькі тое, што яны сказалі. І ніколі мы ўжо не пачуем таго, што яны маглі б сказаць.

Народ, які не знае цаны сваім дзеячам, талентам сваім — пісьменнікам, вучоным, мастакам, — народ гэты будзе вельмі цяжка і доўга выходзіць на шлях цывілізацыі.

**Вёў гутарку**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

годзе, а на роднай мове ёсць толькі «Прырода Беларусі», выдадзеная ў 1959 годзе праф. В. Дзяменцьевым і В. Якушкай. Менавіта ў гэтым годзе выйшла адзіная навукова-папулярная кніга А. Махнача і Л. Вазнечука «Геалагічнае мінулае Беларусі». І гэта ўсё.

На пасяджэнні Навуковага савета Геаграфічнага таварыства БССР быў распрацаваны план, прысвечаны стагоддзю А. Смоліча. Гэта канферэнцыі, чытанні, урачыстыя пасяджэнні, вандроўка на радзіму вучонага. Хачу звярнуцца да ўсіх, хто жадае далучыцца да гэтых мерапрыемстваў, а можа, і мае якія новыя дадзеныя аб жыцці і дзейнасці вучонага, адрасавацца ў Геаграфічнае таварыства Беларусі (Геаграфічны факультэт БДУ імя Леніна, тэл. 26-50-58).

І ўжо самы апошні раз дадзім слова прафесару Смолічу:

**«Мерны, здаровы клімат, багацце, і буйнасць жывое прыроды, разнароднасць краявідаў і выключна шырокае развіццё вадзяных шляхоў ствараюць у Беларусі вельмі спрыяльныя варункі для развіцця народу». Вядома, варункі адна справа — рэчаіснасць іншая. І тут хацеў бы засяродзіць увагу чытача на вытрымцы са звароту прадстаўнікоў 140 ВНУ краіны і кіраўнікоў органаў упраўлення вышэйшай адукацыяй: «Высшая школа оказалась перед целым рядом проблем, решение которых есть одна из предпосылок выживания не только системы образования, но и всего общества в целом. Главные из них:**

**— отсутствие у общества четких позиций по отношению к высшей школе,**

**— продолжающееся падение авторитета знаний и культуры профессиональной деятельности,**

**— усиливающаяся духовная деградация и низкая культура межличностных отношений...»**

І мне здаецца, што адзін з галоўных накірункаў пошукаў выйсця з гэтага становішча — зварот да сваіх каранёў, да свае Радзімы, яе гісторыі, да людзей, якія аддалі ёй свой талент, розум, жыццё.

**Б. ГУРСКІ,**
**прафесар, загадчык кафедры фізічнай геаграфіі Мінскага педінстытута імя М. Горкага, віцэ-прэзідэнт Геаграфічнага таварыства Беларусі.**

---

тым засеў за пераклад. Як пераклаў некалькі тысяч слоў, паехаў у Мінск у выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Сустрэўся там з Іванам Уладзіміравічам Саламевічам, які прыхільна паставіўся да маёй спробы. І праз паўтара года першы варыянт быў закончаны. У ім каля 24 тысяч слоў. Праўда, давялося скараціць. На скарачэнне гэтага майго іспанска-беларускага слоўніка пайшло яшчэ паўтара года. Такім чынам, ад пачатку складання рэестраў да падрыхтоўкі рукапісу ў друк прайшло шэсць гадоў. Зараз гэты слоўнік зноў у выдавецтве і, можа, у 1994 годзе будзе выдадзены.

Але на гэтым Мікола Бусел не спыніўся. Паводле яго ўласнага прызнання, надта ўжо свярбелі рукі, каб зрабіць яшчэ і італьянска-беларускі слоўнік, хоць невялічкі. І зноў усё пачалося спачатку, але тут вельмі дапамог папярэдні вопыт. За некалькі месяцаў надзвычай напружанай працы быў складзены слоўнік на 11,5 тысячы слоў.

— У нас да гэтага часу не з'явілася добрых іншамоўна-беларускіх слоўнікаў,— кажа ён.— Магчыма, таму, што няма дзяржаўнага заказу на такую літаратуру. Ды і наогул, складанне слоўніка вымагае шмат працы. Асабліва, калі ўлічыць тое, што робіцца гэта на сярэдневяковым узроўні: з дапамогай ручкі і паперы. Праблема знайсці нават звычайную картку для складання картатэкі. Яшчэ большая праблема — слоўнік замежнай мовы, без якога таксама нічога не зробіш. Бібліятэкі нашы вельмі бедныя ў гэтым сэнсе. А без дзяржаўнага падыходу разлічваць няма на што.

На маё пытанне наконт таго, калі мы пабачым у кнігарнях слоўнікі, складзеныя ім, Мікола Бусел нічога не адказаў. І гэта вельмі прыкра.

г. Светлагорск. **І. КАТЛЯРОЎ.**

---

**ВІНШУЕМ!**

# Улюбёны ў працу і прыгажосць зямлі

## Уладзіміру ЮРЭВІЧУ — 75

Акідваючы позіркам жыццёвыя і творчыя шляхі-дарогі, якімі Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч ішоў да сваёй слаўнай гадавіны, міжволі здзіўляешся і па-добраму зайздросціш таму, як багата ўдалося яму зрабіць за гэты час — у літаратурнай крытыцы, прыгожым пісьменстве, у жанры радыё- і тэлепубліцыстыкі, у прапагандзе здабыткаў беларускай культуры і нават у музейнай справе. Невычэрпныя скарбы вуснай народнай творчасці, класічная спадчына, творы сучасных пісьменнікаў нязменна з'яўляліся для Уладзіміра Юрэвіча як літаратурнага крытыка і даследчыка прадметам засяроджанай увагі, крыніцай творчага натхнення. Патрабавальным жа настаўнікам для яго было жыццё.

**Прага спазнання таямніц прыроды і таямніц чалавечай душы, неадольная прага ведаў была адной з вызначальных рысаў у характары дапытлівага, цікаўнага юнака. І сапраўды, выпускнік мінскага індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума (1934) працягвае вучобу на будаўнічым факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута (1936—1941) і завочна вучыцца на філфаку Белдзяржуніверсітэта (1939—1941). Прычым. вучоба спалучаецца з працай на Беларускім радыё, куды шаснаццацігадовы Уладзімір пасля сур'ёзнага конкурснага адбору быў прыняты на пасаду дыктара. Гуманітарый, як бачым, узяў верх над інжынерам-будаўніком.**

У час працы на радыё адбывалася і станаўленне У. Юрэвіча як публіцыста, літаратурнага крытыка. Думаецца, толькі высокая самапатрабавальнасць Уладзіміра Міхайлавіча абумовіла яго адносна позні літаратурны дэбют: публіцыстычныя артыкулы ён пачаў пісаць у першыя гады вайны, а першае яго выступленне ў друку адносіцца да 1949 года.

Тэматычныя абсягі ранніх публіцыстычных і крытычных выступленняў У. Юрэвіча даволі шырокія: барацьба за мір, адлюстраванне ў літаратуры жыцця пасляваеннай вёскі і горада, дружба народаў, гераічнае мінулае беларускага народа, адраджэнне нацыянальнай культуры. Але праз гэтую шырыню і разнастайнасць выразна праглядвае пільная цікавасць У. Юрэвіча да літаратуры як эстэтычнай з'явы — цікавасць да мастацкага ўзроўню твора, да майстэрства паэта, празаіка, да таго, як глыбока асэнсаваны аўтарам жыццёвы матэрыял: «Без павагі да слова», «І проза мае рытм», «Слова характарызуе», «На мяккай канапе традыцыйнасці» — вось назвы некаторых рэцэнзій У. Юрэвіча, якія даюць нагляднае ўяўленне аб пазіцыі крытыка, яго эстэтычных густах і схільнасцях. У далейшым менавіта гэты аспект — аналіз моўнага майстэрства, моўнай культуры, разгляд стылю, індывідуальнай творчай манеры — стаў дамінуючым, вызначальным у артыкулах, рэцэнзіях У. Юрэвіча. «Цудадзейная сіла слова», «Стыхія жывога слова», «Праз слова да самабытнасці. Мова і стыль», «Стройная плынь слова» — гэта назвы раздзелаў яго кнігі «Слова і вобраз», якая стала прыкметнай з'явай літаратурна-творчага жыцця пачатку 60-х гадоў. Яна не страціла сваёй навуковай каштоўнасці і сёння.

Абраны У. Юрэвічам кірунак *даследавання практычна* ўмацоўваў аўтарытэт беларускай крытыкі, страчаны ёю ў 30—50-я гады, вяртаў ідэалагізаваную, палітызаваную крытыку ў рэчышча прафесіяналізму, якім яна і павінна была ісці, каб дабратворна ўплываць на мастацкую практыку, на маральны клімат у творчым асяроддзі,— уплываць не публіцыстычнымі заклікамі, а сталым, аб'ектыўным аналізам твора, непрадузятым даследаваннем яго ўнутранай структуры, элементаў паэтыкі, невычэрпных багаццяў слова, вытлумачэннем прычын поспеху ці няўдач аўтара. Менавіта такой — добразычлівай і разам з тым прынцыповай, прафесійна патрабавальнай — і была крытыка У. Юрэвіча. Як гісторык беларускай крытычнай думкі я меў гонар пісаць пра У. Юрэвіча, аўтара кніг «Слова і вобраз» (1961), «Шматгалоссе жыцця» (1965), «Погляд» (1974), пра яго актыўны ўдзел у літаратурных дыскусіях і спрэчках 60-х гадоў. Але сёння мушу шчыра прызнацца, што тагачасныя мае ацэнкі маглі б быць і болей змястоўнымі, і болей высокімі, паколькі той наватарскі кірунак, які сваімі кнігамі таленавіта сцвярджаў У. Юрэвіч, і сёння чакае новых удумлівых прадаўжальнікаў, тых, хто зможа пераканальна раскрыць «цудадзейную сілу слова», яго мелодыку, спасцігнуць сакрэты мастацкай творчасці, так, як гэта рабіў Уладзімір Міхайлавіч.

У творчы актыў Юрэвіча-крытыка неабходна залічыць таксама і яго даследаванні, прысвечаныя месцу беларускага нарыса ў сістэме жанравых форм мастацкай прозы, асваенню беларускімі пісьменнікамі сферы жыцця і працы рабочага класа, праблемам выкладання беларускай літаратуры ў школе. І ў кожнай з прыгаданых тут тэм У. Юрэвіч здолеў сказаць сваё важкае, вынашанае слова.

Як крытык глыбокай аналітычнай думкі, надзвычай чуйны да павеваў новага, Уладзімір Міхайлавіч не мог абмінуць сваёй увагай беларускі раман і аповесць, выдатныя ўзоры якіх у 60-я гады ўзбагацілі нацыянальнае пісьменства, прынеслі яму заслужаную славу, шырокае прызнанне. Яго артыкулы, прысвечаныя І. Мележу («Лёс чалавека — лёс народа»), І. Шамякіну («Чалавек буйным планам»), Я. Брылю («Адысея *пакут і змагання*»), В. Быкаву («Патэнцыял мужнасці»), І. Навуменку («Вяртанне ў маладосць»), І. Чыгрынаву («Першапачатак народнага подзвігу»), Б. Сачанку («Рамкі жанру і маштабнасць»),— гэта грунтоўны прафесійны разгляд твораў у адзінстве іх зместу і формы, адзінстве сацыяльнай, грамадскай і эстэтычнай каштоўнасці. Галоўным для крытыка тут было мастацкае наватарства раманістаў, адметнасць шляхоў увасаблення творчай задумы, творчае майстэрства, узбагачэнне і развіццё нацыянальных традыцый у галіне вялікага эпасу, індывідуальная непаўторнасць стылю, пісьменніцкай манеры. Менавіта ў гэтых працах з асаблівай глыбінёй і выразнасцю выявіўся талент Юрэвіча як тонкага, удумлівага крытыка са сваім адметным голасам і сваім бачаннем жыцця і літаратуры. Думаю, не толькі асабіста мне глыбока імпануе манера У. Юрэвіча, які ў сваіх ацэнках і развагах заўжды ідзе ад асобаснага ўспрымання вобразнай матэрыі твора, улічвае мастакоўскую індывідуальнасць, тып таленту, характар светаадчування.

**Асобна хацелася б сказаць пра сталае захапленне У. Юрэвіча творчасцю Янкі Купалы. Глыбокая пачцівасць да выдатнага сына беларускага народа закладвалася ў сям'і Юрэвічаў, патомных настаўнікаў. Маці Уладзіміра Міхайлавіча Таццяна Мікалаеўна, як вядома, вучылася ў адным класе з Янкам Купалам, і асоба аўтара «Жалейкі», «Раскіданага гнязда» для ўсіх членаў сям'і стала жывым увасабленнем велічы і духоўнай прыгажосці беларускага народа, працаўніка, змагара і пакутніка. Да спадчыны вялікага песняра-адраджэнца Уладзімір Міхайлавіч неаднаразова звяртаўся і як даследчык, і як дырэктар літаратурнага музея народнага паэта. Мне асабіста не раз даводзілася прысутнічаць на пасяджэннях вучонага савета ў музеі, дзе Уладзімір Міхайлавіч разгортваў вялікія планы па ўшанаванні памяці бессмяротнага Купалы.**

Істотнае месца ў творчай біяграфіі У. Юрэвіча займаюць яго кнігі мастацкай прозы— кнігі, звернутыя да юнага чытача: «Тараскавы турботы» (1966), «Дзе начуе сонца» (1970), «Дожджык на колах» (1977), «Нястрашны страх» (1986). І ў гэтай галіне творчай дзейнасці Уладзімір Міхайлавіч выявіў шматграннасць свайго таленту — тонкае адчуванне дзіцячай псіхалогіі, унутранага свету падлетка, адметнасць ягонага ўспрымання жыцця.

Жанр слова, народжанага юбілейнай датай, дазваляе сказаць тое, што ў паўсядзённым, тлумным жыцці мы часта хаваем, баімося, каб, крый Божа, хто-небудзь не пасмяяўся з нашай празмернай чуллівасці, сентыментальнасці, такой недарэчнай у эпоху суцэльнай канфрантацыі і агрэсіўнасці. Карыстаючыся нагодай, якраз і хачу выказаць сваю даўнюю сімпатыю да Уладзіміра Міхайлавіча, глыбокую павагу да яго як высакароднага чалавека, таленавітага празаіка, эрудзіраванага крытыка-прафесіянала, самааддананага працаўніка на ніве беларускай нацыянальнай культуры. Актыўная, дзейсная прысутнасць У. Юрэвіча заўсёды адчувалася і сёння адчуваецца ў літаратурна-творчым жыцці рэспублікі. Сваёй працай ён сцвярджае тую высокую інтэлігентнасць, культуру паводзін, якой так бракуе многім людзям, блізкім да літаратуры. Калі я слухаю выступленне Уладзіміра Міхайлавіча ці чытаю яго літаратурную працу, прыемна ўражвае цэласнасць яго натуры, паслядоўнасць, прынцыповае нежаданне падстройвацца пад чужую, няхай нават і аўтарытэтную думку. Ён заўсёды заставаўся самім сабой, спакойным, ураўнаважаным, часам іранічна-насмешлівым. Уладзімір Юрэвіч вось ужо пятнаццаць гадоў як носіць ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Не губляю даўняй надзеі прачытаць кнігу ўспамінаў ці аўтабіяграфічную аповесць, якую, магчыма, сёння і піша або напісаў Уладзімір Міхайлавіч. Упэўнены, што гэта будзе змястоўны, цікавы, патрэбны твор, бо яго аўтару ёсць што расказаць пра час і пра сябе. Будзем чакаць гэтае кнігі, пажадаўшы Уладзіміру Міхайлавічу многіх радасных хвілін творчага азарэння.

**Міхась МУШЫНСКІ.**

---

**НАШ КАЛЯНДАР**

# АЎТАР «СЛУЦКАГА ПОЯСА»

Анатоль Астрэйка... Акім Пятровіч Астрэйка... Аб'ектыў фотакарэспандэнта **Ул. Крука** *такім захаваў яго воблік для гісторыі.* Для гісторыі? А чаму б і не! Выпадак у літаратуры ўнікальны: паэтычны зборнік А. Астрэйкі «Слуцкі пояс» быў выпушчаны ў 1943 годзе друкарняй слуцкай падпольнай газеты «Народны мсцівец» (перавыдадзены ў 1964 годзе). Сам Луі Арагон пазней, пасля вайны, згадваў гэтую кніжку ў адным са сваіх артыкулаў.

Пра што расказваў у той момант, у далёкім 1973 годзе, А. Астрэйка, калі яго «падгледзеў» аб'ектыў, цяпер дакладна не згадаеш. Можа, пра тое, як выпускаўся гэты зборнік? А мо ўспамінаў паэт, як *неаднойчы даводзілася ляцець* у тыл ворага? Ці пра тое, як працаваў адказным сакратаром газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну»... Альбо як пісалася знакамітая кніга для дзяцей «Прыгоды дзеда Міхеда»...

Было пра што ўспомніць Акіму Пятровічу... Мы ж сёння, прыгадваючы яго, сведчым: тым і цікавая беларуская літаратура, што ва ўсе часы ў ёй працавалі таленавітыя людзі. Паэт-песеннік А. Астрэйка — адзін з іх.

**Пятрусь МАКАЛЬ**



●

Калі матуля ў маю калыску
аднойчы пяшчотна гукнула «Пятрусь» —
гушкалася рэхам
здалёку і зблізку,
уторылася:
— Беларусь!..
— Беларусь!..
І ўжо не забудзецца аніколі,
як Бацькаўшчына
калыханкай гучыць,
як пачынаў я ў матчынай школе
родную мову сваю вучыць...
Калі я манную кашу нішчыў,
хоць і была яна толькі з агню,
лыжкаю я на гліняным днішчы
літары крэмзаў упершыню.
Па кожнаму гуку і складу
з маленства
спрабую твары і душы адкрыць,
збіраю айчынныя скарбы пісьменства,
вучуся з Айчынаю гаварыць...
Пад жаўруковым дрыготным цугам
рухамі хлапчукоўскай рукі
выводзіў,
хістаючыся за плугам,
няроўныя
мовы хлебнай радкі.
Усё, што мне ў слове матчыным люба,
я ў наваколлі зямным убіраў:
цвёрдасць —
ад непахіснага дуба,
шаўковую мяккасць —
ад кветак і траў...
Нашто выхваляцца, не ўсё я ўмею,
ды шматгалосасці цешуся я,
без перакладчыка разумею
кукаванне зязюлі і трэль салаўя.
І толькі ледзьве ў душы ўтрымаю
успышку болю, якой гару,
калі на вуліцы або ў трамваі
па-беларуску загавару...
Мяне прамаюць, як з дзіваў дзіва,
суседзі позіркам ў штыкі, —
чым прад табою,
мая Радзіма,
я вінаваты,
што я такі!
Не кланяюся айчынным буржуям,
люблю я свой дом і сваю зямлю,
мяне разумеюць, калі кажу ім
па-беларуску сваё «люблю».
Па-беларуску вяду гаворку —
без перакладчыка разбяры! —
калі сустрэну ў гаі вавёрку,
калі спаткаю дзятла ў бары.
Я разумею зоркі і дайны.
Нябесным бразгаючы вядром,
мне прадвяшчаючы дождж хлебадайны,
па-беларуску буркае гром...
Не нарадзіўся ніхто ў кашулі, —
кожнаму доўга ісці і расці:
не разумеючы мовы матулі,
не зразумееш нічога ў жыцці.

●

Штосьці з нашым домам адбываецца,
Нібы стаў нагамі дагары.
Ад налётаў ветру адбіваюцца,
Як у ліхаманцы, жыхары.
Ці адчуеш, як струменяць водарам
На вакне пялёсткі дрогкіх руж,
Калі ходзіць несціхана ходырам
Хатняя спаянасць сцен і душ!
Што вы ні кажыце, а наведала
Нас усіх цудоўная пара:
Каб сям'я хоць нечым паабедала,
Пахкі суп згатуеш з тапара...
У сцяне прасвечваюць адтуліны,
Чорны чайнік, расплюскаўшы вар,
На пліце ў суседа перакулены,
Абдае сваім агнём мой твар.
Нібы падпярэзаны аблогаю,
Многапавярховы дом жыве:
Хтосьці, ураўняўшы столь з падлогаю,
Па маёй ступае галаве.
Дапатопным крэсівам запалены,
Мой ачаг айчыны не зачах:
Тых, якія нада мной пастаўлены,
Я трымаю на сваіх плячах...
Мы адною нітачкаю звязаны,
Ад якой няма куды ўцякаць,
Я нядрэмна слухаць абавязаны,
Пад якую музыку скакаць.
Тое, што на злом ужо асуджана,
Нельга ўратаваць усё адно,
Хоць пабіта ў доме ўся пасудзіна,
А шчаслівых твараў не відно...
Штосьці з нашым домам адбываецца;
Не маўчы над стрэхаю, бацян!
Нашы летуценні разбіваюцца,
Як талеркі іншапланецян.
Стаўшы абабітаю саломаю,
Зерне хлебадайнае дары...
Мне здаецца, што, як і жытло маё,
Мы стаім нагамі дагары.

●

Спрыяючы мудрым галовам,
Самадзяржаўным указам
Раздзелена думка са словам,
Каб не сваволілі разам...
Словам, як жвачкавай гумай,
Напоўніўшы рот з тугою,
Што пажадаеш, думай,
А гавары другое!
Спазнала маё пакаленне
Яшчэ за школьнай партаю:
Калі мы гаворым Ленін,
Падразумеваем — партыя...
Асвойвайце вольны прастор вы,
Які і пагляд не абдыме...
Коцішся ўніз да прорвы,
А гавары:
— На ўздыме!
Сейбіты словы ў прыполе
Кідалі з выглядам барына:
Родзіць найлепей поле,
Якое абезгаспадарана!
Множачы чары бязмежна,
Тоячы нораў распусны,
Словы ад дум незалежна
Пырхалі з вуснаў у вусны...
Праваднры хімеры
Мямлілі не без мукі
*Тое, што ім на паперы*
Неслі жрацы навукі.
Мовілі імем народа
Перад нясцерпнымі стратамі:
Лепшая ў свеце свабода —
Тая, якая за кратамі...
Дзе ён, той бохан тмінны,
Што вабіў скарынкай ружовай!
Скібачкі-успаміны
Моўчкі цяпер дажоўвай.
Звонам надзеі бумкай,
Торгаючы вяроўку:
Можа, нарэшце з думкай
Слова з'яднаецца зноўку!

●

Калі прасіў я крошкі ў вас,
Вы ежай смачна жвякалі,
Скрозь зубы цэдзячы ў адказ:
— Не замінай, —
— Няма калі.
Ах, як зласліўцы на мяне
З балотца дружна квакалі!
Ці ты памог спыніць іх? Не!
Ты мармытаў:
— Няма калі...
Кагосьці пад сховам цемнаты
Пад дых кастэтам шмякалі
Зладзюжкі хцівыя...
А ты?
А ты пабег:
—Няма калі.
Калі гарэў суседскі дом,
Грымотна бэлькі гакалі.
Ды ты не кінуўся з вядром
Тушыць агонь:
— Няма калі...
Анёльскім звонам клікаў храм,
Твае ж абцасы звякалі, —
Ляцеў ты да гандлёвых крам,
Шаптаў сабе:
— Няма калі...
З атрутных воўчых кветак зла
Ці ж узгадуеш ягады,
Што палымнеюць ад святла,
Ад слодычы, ад згагады?
Вы сталі добранькімі ўраз,
Калі свой век прачвякалі:
Ах, што б зрабіць хоць напаказ!
Ды ўжо і жыць
Няма калі!



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Лоцман пільна ўгледзеўся ў Алекса:

— Што прывяло вас сюды? Незадаволенасць, неўтаймаванасць, *раздвоенасць*? Вы можаце вылучыць...

— Адказваць абавязкова? — абсек яго Кліент.

— Можаце і не адказваць, — паціснуў плячыма Лоцман. — Але як мы тады правядзём Прыём?

— Я ведаю асноўныя прынцыпы Пераўтварэння. Давайце лепш бліжэй да справы.

— Спакайней, малады чалавек. Не тое гэта месца, каб спяшацца.

— Я дам распіску, што не буду мець ніякіх прэтэнзій.

— А хто мне дасць распіску, што я прафесійна правёў Прыём? — усміхнуўся Лоцман. — Вы, я гляджу, ажно ўспацелі ад злосці. Мабыць, і праўда прыпякло, раз гэтак ломіцеся, — раптам распачуваў ён.

— А вы што думалі?! — закрычаў Алекс. Якраз спагады ён і не вытрымаў. Апошнім часам яна яго адно раздражняла. — Што я, проста так, без дай прычыны, прыйшоў бы да вас? Мне што, рабіць няма чаго больш, як гадамі жыцця раскідвацца?

— Супакойцеся! — Лоцман узняўся і паглядзеў на датчык. — Субстанцыя, канечне, дзейнічае на вас, але ж трэба хоць трохі ў руках сябе трымаць. Яна толькі пачынае наладжваць з вамі Кантакт, а вы ўжо разраўліся. Можаце прагарэць: ёй такія інтанацыі не дужа даспадобы.

Перасцярога ўмомант астудзіла Алекса.

«Трэба ўзяць сябе ў рукі, — зацята пачаў паўтараць ён сабе. — Я спакойны. У мяне ўсё нармальна».

— Вось так лепей, — ацаніў Лоцман Алексава маўчанне.

Разглядаючы Кліента, ён нешта занатоўваў у сшытку. Пaглядзіць — запіша, зноў угледзіцца — зноў нешта піша. І кожнага разу фіксаваў паказанні датчыка.

— І часта вам даводзіцца перапыняць Прыём? — сам пачаў асцярожна Алекс.

— Ці часта перапыняем? Бывае. Але, вядома, нам не выгадна рабіць гэта: мы ж вяртаем кліенту восемдзесят працэнтаў заплачаных грошай...

«Ім застаецца дваццаць... Мне такую пазыку да смерці не сплаціць...» — Алекс згадаў, як ён прыніжаўся, каб выцыганіць у Банку патрэбныя грошы — на адзін толькі год, і яму ажно млосна стала.

— Плюс кліент назаўжды пазбаўляецца шанцу на паўторную спробу, — працягваў Лоцман. — Ашчаджаем Субстанцыю. Нам няцяжка было б узяць з чалавека грошы і другі, і трэці раз, калі ён не можа ўвайсці ў Камеру з першага заходу. Але Камера, дакладней, Субстанцыя ў ёй, сама не прымае такіх. Любыя паўторныя Кантакты шкодзяць ёй, і мы мусім гэта ўлічваць. Праўда, цяпер вядуцца вопыты, і ёсць ужо пэўныя поспехі, але казаць пра іх яшчэ рана.

— А як жа вы сядзіце тут дзень пры дні?

— Не дзень пры дні. У нас штат — трыццаць Лоцманаў. У тыя месяцы, калі трыццаць адзін дзень, мы даём Субстанцыі адпачынак, так што кожнаму прыходзіцца весці Прыём раз на месяц. Хоць, ведама ж, не кожны выседзіць каля Камеры восем гадзін запар. Вы, самі бачыце, і пяці хвілін уседзець не можаце, заводзіцца пачынаеце.

— Вы яшчэ не ведаеце мяне.

— Паглядзім. Дык вось, вы запыталіся, ці часта мы перапыняем Прыём, і я да канца не адказаў. Вядома, нам было б выгадна заўсёды заканчваць Прыём, нават нягледзячы на стан Субстанцыі, — урэшце, яна ўсё можа пераадолець, — але ў нас даўно ўжо ад ахвотнікаў адбою няма, так што лепей не выціскаць з яе ўсё. Адкуль толькі ні едуць! У мінулую змену ў мяне быў брэтонец з Рэюньона. Захацеў стаць жанчынаю, а гарманальных паказанняў, нават такіх, каб зрабіць звычайную хірургічную аперацыю — ні на каліва. Якіх толькі дзівакоў не бывае! — Задумаўшыся, Лоцман пакруціў галавою. — Дык вось, ахвотнікаў адваліць нам любыя пасільныя, дый непасільныя грошы — процьма, а кліент з неспрыяльным полем, як я ўжо



# ПЕРАТВАРЭННЕ

*Маленькая антыўтопія*

*Алесь Асташонак*

сказаў, блага ўздзейнічае на Субстанцыю. Яна ж таксама і стамляецца, і зношваецца. Так што спярша праводзім адбор. Вядома, бываюць памылкі, дыягностыка яшчэ недасканалая, і жаданні бываюць непамерныя, не адпаведныя ні патэнцыялу суб'екта, ні магчымасцям Субстанцыі.

— Дык вялікі працэнт перапыненняў? — Толькі цяпер, ужо адчуваючы подых Субстанцыі, Алекс па-сапраўднаму зразумеў, у якую ж рызыкоўную гульню ён увязаўся. Душу вярэдзіў страх, хоць і выношваў ён сваю задуму даўно, рыхтуючыся і да найгоршага выніку — марнага спальвання свайго патэнцыялу.

— Прыкладна кожны пяты церпіць фіяска яшчэ да ўваходу ў Камеру. Але тыя, хто ўваходзяць, так ці інакш ператвараюцца.

— Так ці інакш? — горка ўсміхнуўся Алекс.

— Абсалютнага выніку дасягнуць вельмі цяжка.

— А гэты брэтонец — як ён?

— Гарманальных паказанняў не было, а душэўнай адэкватнасці хапіла з лішкам.

— І ў якой жа ступені ён стаў жанчынаю? Нельга ж стаць жанчынаю, скажам, на трыццаць працэнтаў?

— Нельга?.. А вы згадайце ўсіх, каго ведалі. Хоць пра адну скажаце, што яна — жанчына на ўсе сто працэнтаў? Здаецца, тут і трыццаць працэнтаў — неблагі вынік. Маюцца на ўвазе, ведама ж, не проста знешнія прыкметы. Як на першы погляд, дык гэты брэтонец, даруйце, брэтонка атрымалася не надта прывабная, але жаночасцю яна магла б падзяліцца са многімі натуральнымі. Яна ўжо даслала нам удзячны ліст: у яе адразу ж з'явіліся кавалеры, і яна ўжо думае не спяшацца, як хацелася спачатку, аддаваць каму-небудзь з іх перавагу, а пачакаць каго лепшага.

— Ну, а вам, — раптам набраўся смеласці Алекс, — у Камеру ўвайсці не ўдалося?

Лоцман ускінуў вочы, потым, памаўчаўшы, адказаў:

— Не ўдалося. А чаму вы вырашылі, што я хацеў увайсці ў яе?

— Так... Мне здаецца, што калі б вы гэтага самі не паспрабавалі, дык не ўседзелі тут бы цяпер.

— Лагічна. Але: вы не дапускаеце, што можа існаваць індывідуум, які б не жадаў сабеПератварэння?

— Не дапускаю. Любы чалавек прагне нечага іншага, што мае.

Лоцман адклаў убок ручку.

— Дзіўная ўсё ж такі гэтая істота — чалавек, — пачаў ён задуменна. — І чаго яму трэба?.. Жыві сабе спакойна ці завіхайся, як хочаш, карыстайся тым, што дала табе прырода — я не кажу, вядома, пра тых, каго яна ў нечым абдзяліла, тут ужо і праўда цяжэй. Чалавек жа не выкарыстоўвае свайго патэнцыялу і на трыццаць працэнтаў — працуй адно над сабою, а не ківай на лёс. Аднак усе незадаволеныя, кожнаму хочацца нешта ў сабе змяніць, абы не так як ёсць, дакладней, не так, *як можна*... А навошта?.. Вядома, Субстанцыя абуджае ў чалавеку глыбока патаемнае, нябачнае, неабуджанае ім самім — з яго ж віны, заўважу, — вядома, спакуса гэтая амаль неадольная — дасягнуць адным махам таго, пра што толькі ў снах можна марыць. Але ж ёсць у гэтай перамозе і нешта ненатуральнае, таннае. Нават калі чалавек рэалізоўвае свой затоены патэнцыял — гэта і тады парушэнне заканамернай эвалюцыі. Я сказаў бы нават, ход супраць Боскае Волі, скасаванне Вышэйшага Выраку. Ці трэба — перамагаць сапраўднасць? Вы ж, я мяркую, не прэтэндуеце на тое, што вы разумнейшы за Творцу?..

Алекс змаўчаў, хоць Лоцман пацэліў трапна: колькі бяссонных начэй прапакутаваў ён у бясконцых ваганнях — варта, не варта, аб'ектыўна, не аб'ектыўна...

І тут ён адчуў раптам, як усю ягоную скуру пракалолі пякучым болем тысячы вострых іголак і пацягнула аднекуль незямным, не вядомым ніколі яму дагэтуль холадам — так, пэўна, сцюдзёна за краем жыцця...

— Не бойцеся, — сказаў яму Лоцман, заўважыўшы, як змяніўся Алексаў твар. — Гэта дзейнічае Субстанцыя, наладжвае з вамі Кантакт.

Алекс самотна паглядзеў на вялізныя металічныя дзверы, і яго апанаваў жах.

Мозг, здавалася, пачаў разломвацца на кавалкі.

— Трымайцеся, трымайцеся, — супакойваў Алекса Лоцман. — Гэта Ломка. Яна праходзіць. Пацярпіце яшчэ крыху, пацярпіце... У вас хопіць сіл, я ўжо бачу, у вас хопіць сіл! — ажно ўзняўся над сталом, сам напяўшыся, Лоцман — у ім запаліўся прафесійны азарт, і ў тую самую хвіліну, калі Алекс сабраўся ўжо быў адрачыся ад мэты, дзеля якой узышоў самахоць на гэтую Галгофу, жах перастаў студзіць кроў, боль пачаў спакваля аціхаць — і ўжо можна было цярпець. Падагнуліся ногі, якія — ну толькі што вось! — выпрасталіся ў нерухомыя, здавалася яму, даўжэзныя шматтонныя рэйкі, працятыя жудасным электрычным свербам. Твар перастаў крывіцца, вусны — раздзірацца, не лопаліся ўжо вушы, не рэзала пякучым святлом вочы. Нарэшце, перастала разрывацца галава.

Лоцман з лагоднай усмешкаю глядзеў на яго.

— Віншую вас, — сказаў ён, як толькі Алекс ачомаўся збольшага. — Больш ужо так балюче не будзе. Толькі ў Камеры.

Тут Алекса зноў скаланула — здалося, апраметная вярнулася, нават ногі задрыгаліся.

— Не бойцеся, гэта астатні вынік першага Судакранання з Субстанцыяй.

Алекс вяла павярнуў галаву да дзвярэй Камеры. У душу ўпаўзала апатыя.

— Як жа я буду там, — разгубіўся ён, — калі там яшчэ цяжэй? Я ж здохну!

— Не бойцеся. — Спачувальная, заспакаяльная ўсмешка ні на момант не сыходзіла з твару Лоцмана. — Там, у Субстанцыі, будзе і цяжэй, і лягчэй. Боль і жах стануць большыя, даўжэйшыя, але ў вас ужо не будзе выбару: малі не малі, а Кантакт усё роўна не перапыніш. Гэта дужа дапамагае — усе кажуць, хто выходзіць адтуль.

— А выходзяць усе? — Вочы ў Алекса акругліліся ад жаху.

— Ну што вы ўжо, як дзіця, напалохаліся? Супакойцеся. Выходзяць усе. Толькі з розным вынікам. Або з пажаданым, заказаным, або з недаборам. Вось чаму так важна правесці як след Прыём.

— А які найчасцей недабор? Вялікі? Ці ж ёсць тады сэнс уПератварэнні? — зноў ледзь не ўзвіўся Алекс.

— Я ж кажу вам: усё залежыць ад Жадання і якасці правядзення прыёму. Недабор зазвычай нязначны. Невызначальны. Супакоіліся?.. Дык на чым мы спыніліся перад Судакрананнем?.. Мы гаварылі, здаецца, аб МэтазгоднасціПератварэння. Ёсць у ім, як на маю думку, нешта ненатуральнае, нават калі Субстанцыя разварушвае ў чалавеку ягоную Патаемнасць. Ёсць у гэтым нешта проціборскае... Штучнае... Пошлае... Гэта ўсё роўна як купляць каханне жанчыны за грошы. Вам не даводзілася?.. Адгаворваць кліента ўваходзіць у наш абавязак, згодна з Кантрактам! — таропка апярэдзіў Лоцман Алекса: той пачаў ужо шкадаваць, што марнуецца такі каштоўны час. — Вы добра падумалі аб Мэтазгоднасці вашага жадання, аб ягонай абгрунтаванасці з пункту погляду як натуральнасці самога жадання, так і вашай прыроднай здатнасці да абранагаператварэння?

— Добра, — адказаў Алекс. Ён адчуваў, што зноў набірае сілу.

— Вы ўпэўнены?

— Абсалютна, — з намаганнем выціснуў з сябе Алекс, пераадольваючы ў сабе незразумелае — адкуль толькі ўзялося раптам? — супраціўленне.

Лоцман кінуў позірк на датчык.

— Субстанцыю не падманеш. Абсалютнай упэўненасці ў вас няма. Але ў вас надзіва моцная воля. Гэта ўжо шмат. Пры ажыццяўленніПератварэння галоўную ролю з боку кліента адыгрываюць два фактары: Воля, няхай гэта нават фанатызм, і Патэнцыял. А вось. Субстанцыі найперш важная Мэтазгоднасць... Вашае поле вельмі блізкае да магутнага, — зноў паглядзеў Лоцман на датчык. — Але Субстанцыі, як матэрыі, што стаіць на сотні парадкаў вышэй за нас, нашмат цяжэй кампенсаваць сваёй энергіяй слабасць Патэнцыялу, недастатковасць Волі, чым недахоп Мэтазгоднасці. Абгрунтаванасць, лагічнасць, натуральнасць, жыццяздольнасць і ўсе астатнія кампаненты, аналагічныя ў прынцыпе і прыблізна, якія складаюць фактар Мэтазгоднасці, — вось ДамінантаПератварэння. Субстанцыя раз'ятрана супраціўляецца любой неапраўданасці — абагульнім гэтым вызначэннем паняцці кампанентаў фактара, — а калі ўжо шэрагі неапраўданасцей счапляюцца ў адсутнасць Мэтазгоднасці, тады яна зусім паўстае. Выходзіць, так бы мовіць, са сваіх берагоў. Тэарэтычна, яна гэтаксама будзе паводзіць сябе, калі не зможа ахапіць сваім розумам пастаўленай задачы. Аднак такіх выпадкаў яшчэ не было.

— Як яна рэагуе на мяне?

— З вамі яна ў суладдзі. Я ж сказаў вам нядаўна: вашае поле блізкае да магутнага. І гэта ёй імпануе. Субстанцыя любіць, калі да яе прыходзяць моцныя людзі. Слабакам яна падарункаў не робіць. Але, заўважце, праз бар'ер, які раздзяляе нас, праз гэтыя металічныя дзверы, яна адчувае вас толькі энергетычна. Пакуль яна яшчэ толькі намацвае ваш характар і тэмперамент. Вашу псіхабіялагічную моц. Я магу ўжо пэўна сказаць, што ў вас ёсць абодва фактары — у дастатковай для паспяховагаПератварэння меры, — і Воля, — на фанатыка вы не выдаяце, — і Патэнцыял. Але толькі трапіўшы ў ваш разумовы свет, Субстанцыя адчуе вашае Жаданне — і вызначыць ягоную Мэтазгоднасць. Ваш галоўны Кантакт адбудзецца там, за дзвярыма. Тут нешта падобнае здзейсніцца толькі аднойчы, незадоўга да ўваходу ў Камеру, калі будзе другое Судакрананне, пад час якога Субстанцыя ўведае, што ў вас за Жаданне, — я падключу вас да яе ў рэжыме максімальна магчымага тут Кантакту... Не ведаю, што вы там сабе задумалі, аднак Лоцман з вас выйшаў бы выдатны. Поле ў вас...

— Я не хачу быць Лоцманам, — абарваў Алекс.

— Ну-ну... Ніхто вас не ўгаворвае. Хоць многія могуць толькі марыць аб гэтым. У нас фантастычная па сярэдніх паняццях зарплата, каласальная страхоўка, даволі цікавая праца...

— Вы што, ужо асуджаеце мяне на паражэнне там? — кіўнуў Алекс на дзверы Камеры.

— Барані Божа, — усміхнуўся Лоцман. — Я проста мяркую. Жаданне ў вас незвычайнае. Сур'ёзную вы сабе паставілі мэту. Бачна па ўсім. А грошай заплацілі — усяго за адну гадзіну Прыёму. Можа, вы іх яшчэ і пазычылі?

— Пазычыў. І прашу вас не марнаваць час. У нас яго, па-мойму, небагата засталося?

— Небагата... А шкада. З вашым полем можна цягацца з Субстанцыяй у вырашэнні праблем мэтазгоднасці... Але час я не марную. Усё ідзе ў рэжыме падводкі.

— Якія ў вас былі самыя незвычайныяПератварэнні?

— Магу сказаць пра сваю практыку. Адзін мільярдэр з Македоніі заплаціў за ўсе восем гадзін і ўсё ж такі ледзь уламіўся ў Камеру. Я ўжо думаў, нічога не выйдзе. Захацеў стаць вялікім мастаком. Апантаны быў неверагодна, а зачапіцца няма за што. Субстанцыя ўсё-такі нешта ў ім вышукала. Якіх пакутаў чалавек нацярпеўся!.. Затое цяпер малюе не горш за Ван Гога. І ў адрозненне ад яго, яшчэ і грошы мае. Што яшчэ?.. Грэнландскі эскімос, інвалід, дваццаць гадоў цэрэбральнага паралюшу ад самага маленства, гуляе цяпер у футбол за зборную Даніі, сваёй колішняй метраполіі. Яна ж цяпер зноў чэмпіён свету... Знакаміты шатландскі паэт, зусім ужо прападаў праз наркотыкі, уваходзіць цяпер у дзесятку найбагацейшых магнатаў Еўропы. Ні пра вершы, ні пра атруту сваю — ні сном ні духам...

— Нешта падобнае ўдалося ў свой час французу Арцюру Рэмбо. Без усялякіх ператварэнняў.

— Але ж гэта быў вынік ягонай натуральнай — няхай сабе і загадкавай — эвалюцыі. А тут — я ж восем гадзін праседзеў сам-насам з гэтым шатландцам — усё насуперак ёй. — Лоцман зноў паглядзеў на датчык. — У вас поле крыху пагоршылася... Але ўсё роўна, яно ў вас ну проста надзіва моцнае. Шкада ўсё-такі, што вы заплацілі толькі за адну гадзіну. Што, нельга было дзе-небудзь яшчэ пазычыць?

— Я і гэтыя грошы ледзь выдзер у Банку.

— У Банку? Ну, гэта ўжо апошняя справа. — Лоцман спачувальна паглядзеў на Алекса. — Праз год прыйдзецца аддаваць любой цаною. Зможаце?

Алекс пацiснуў плячыма.

— Што ж гэта ў вас, ні радні ніякай, ні сваякоў? — даймаў Лоцман.

— Прабачце. — Алексу стала горка. — Не хочацца мне пра гэта. Час ідзе.

— Не трывожцеся. Усё будзе добра. Думаю, засталося пытанне адной Мэтазгоднасці. Хутка я пераключу вас у асобы рэжым, і Субстанцыя судакранецца з вашым разумовым светам, адчуе вашае Жаданне. Цікава, што ж вы такое задумалі? — ужо зусім спагадліва, хварэючы, як за свайго, глядзеў на бязроднага Кліента Лоцман. — Мяркую, вы ўсё разлічылі?

— Усё.

— А ўвогуле пасля гадзіны Прыёму на многае разлічваць не прыходзіцца. — Ад самотнага позірку Алекса Лоцману стала няёмка. — Цяжка разлічваць на многае — пасля гадзіны Прыёму. А самае кепскае, вы ж яшчэ больш страчваеце ў гадах.

«Ведаю, — прыкрыў вочы Алекс. — Восем гадзін Прыёму, — згадваў ён, — забяспечваюць парог страты ў пяць-дзесяць гадоў. Адна гадзіна — сорак-пяцьдзесят... Сёння мне трыццаць... Жаданне выконваецца, але на жыццё нічога не застаецца...»

— Ну, з Богам! Пераключаю, — падміргнуў яму Лоцман.

...Алекс крычаў. Субстанцыю ліхаманіла.

— Што, што ў вас за Жаданне?! — хрыпеў Лоцман.

Пакой нібыта наэлектрызаваўся духам вар'яцтва.

— Я... я хачу абудзіць беларусаў, — раздаўлены супраціўленнем Субстанцыі, прастагнаў Алекс.

— Каго? — скрывіўся, думаючы, што не дачуў, Лоцман.

— Беларусаў... разумееце... я беларус...

— Ты што — звар'яцеў?! — дыхаў Алексу ўжо ў самы твар Лоцман. — Царпі—зараз Судакрананне скончыцца!.. Трэба ж думаць хоць трохі, з чым прыходзіць сюды!.. Ідыёт!..

І ў Алекса, і ў Лоцмана расколваліся галовы.

Субстанцыя выходзіла з берагоў.

Ганарар за публікацыю аўтар просіць пералічыць у фонд «Дзеці Чарнобыля».

# Хітрыкі настаўніка Хітрага

**Як прыахвоціць, прызвычаіць маладых гараджан да беларускай мовы! Ю. М. Хітры, настаўнік роднай мовы і літаратуры Мінскай сярэдняй школы № 37, дзеля гэтай мэты стварыў у школе... тэатр.**

**— Юрый Міхайлавіч, раскажыце, калі ласка, з чаго вы пачыналі?**

— Прывучыць адразу да мовы было вельмі цяжка. Я нават не ведаў, як пачаць, з чаго пачаць. Узяў магнітафон (у мяне, праўда, на той час была адзіная беларуская песня «Цячэ вада ў ярок»), прыйшоў на ўрок, павітаўся і заспяваў. Дзеці здзівіліся, спачатку цішыня была ў класе, потым нехта засмяяўся. Я прапанаваў: «Дапамажыце мне!» — і ўключыў магнітафон. Яны паслухалі, ім спадабалася, запісалі словы ў сшыткі, заспявалі. Настолькі ім гэта спадабалася, захапіла, што хутка ўжо спявалі «Мае вочы чорныя», «Ой, я прымак», «Касіў Ясь канюшыну»... Я шмат выкарыстоўваю на ўроках беларускай музыкі. Вось зараз дзеці заспявалі песні ансамбля «Свята». Мо іншым разам ніхто з іх не звярнуў бы ўвагі, часта ўсё-такі песні «Свята» па радыё, па тэлебачанні перадаюць, але пачулі тое самае на ўроку — і зусім іншая рэакцыя. Слухаючы песню, цудоўную мелодыю, яны яшчэ і заданне невялічкае выконваюць: выпісаць, да прыкладу, усе прыслоўі або назоўнікі, прыметнікі. Вучні трошкі адпачываюць, у іх настрой падымаецца, ды і разумовую працу больш прадуктыўна выконваюць. Выпісалі, прачыталі, потым яшчэ заданне: напрыклад, зрабіць марфалагічны разбор назоўнікаў ці прыметнікаў. Часта музыка гучыць, калі пішуць сачыненне. Я тады ціхенечка, каб не перашкаджала, уключаю беларускія мелодыі, польку, лявоніху. Здаецца, калі яны пішуць і думаюць, музыка ім таксама нешта падказвае...

**— Што яшчэ, акрамя песень, вы выкарыстоўваеце, каб абудзіць у сваіх вучняў цікавасць да мовы?**

— Я шмат чытаю на памяць. Бяру тыя вершы, апавяданні, гумарэскі, якія сам лічу вельмі добрымі, нават калі іх няма ў праграмным спісе, якія могуць дайсці да дзіцячых сэрцаў. Я не проста чытаю на памяць, я руплюся, каб яны зразумелі і запомнілі. Мы імкнёмся часцей хадзіць на сустрэчы з пісьменнікамі, некаторых запрашалі да сябе ў школу. Арганізоўваем паходы па тых мясцінах, дзе нарадзіўся, жыў або працаваў той ці іншы пісьменнік, паэт. Пабывалі ўжо ў Вязынцы, у Мікалаеўшчыне, на Піншчыне. Часта наведваем купалаўскі тэатр. Раней вельмі цяжка было прывесці дзяцей менавіта ў беларускі тэатр (у іншыя яны ішлі з радасцю), цяпер — самі просяцца. Напачатку вучні мала ўвагі звярталі на дзеянне (прызнаюся, чакалі перапынку, каб пабегчы ў буфет). Цяпер — глядзяць, слухаюць, і я, убачыўшы, як яны рэагуюць на сцэнічныя падзеі, рызыкнуў сам інсцэніраваць, асабліва на ўроках літаратуры... Вучні гавораць, а гэта развівае іх мову. Калі атрымліваюць заданне, дык многія шукаюць па падручніках, каб не проста пераказаць тэкст, а, скажам, паказаць, пазначыць эпоху, пад час якой адбываецца дзеянне. Вось вам і сувязь з гісторыяй, фальклорам, этнаграфіяй...

**— Як прыйшла ідэя стварыць школьны тэатр?**

— Сам я калісьці марыў быць акцёрам. Яшчэ ў школе даводзілася іграць у самадзейных тэатрах, а потым, пад час вучобы на філфаку БДУ, пашчасціла іграць у народным тэатры «Летуценнік», якім сёння кіруе М. Б. Яфімава. І, натуральна, патрапіўшы ў школу, узяўся за любімую справу. Тэатр перадусім дапамагае вырашаць «беларускамоўныя» праблемы. Асноўную групу складаюць вучні тых класаў, у якіх я выкладаю мову, але шмат і такіх, што прыйшлі з іншых класаў. Ёсць яшчэ падрыхтоўчая група. Гэта вучні малодшых класаў, з імі мы асобна займаемся. Пачыналі мы з «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцінкевіча, ставілі «Мікітаў лапаць» М. Чарота, Купалавых «Прымакоў», зараз узяліся за славутую «Паўлінку».

**— Юрый Міхайлавіч, як вы выбіраеце п'есы?**

— Бяру тое, што мне самому падабаецца. Я ўсё-такі не рэжысёр. Проста адчуваю: вось гэта пойдзе, гэта — таксама, а вось гэта — не... Калі я адчуваю, разумею п'есу сам, дык усё, што незразумела вучням, растлумачу. У нас шмат рэпетыцый, шмат дадатковых, індывідуальных заняткаў, таму што ўсё-такі асноўная мая задача — авалоданне беларускай мовай.

**— Ці маглі б што сказаць пра вынікі вашай працы?**

— Тое, што дзеці да мяне прыйшлі і загаварылі па-беларуску — ці не самая вялікая мая перамога. Разумееце, калі пачынаеш працаваць (а страшнавата маладому настаўніку ў школе пачынаць), маленькія перамогі, можна сказаць — маленькія хітрыкі, мне настолькі дапамагаюць, што, як бы ні было цяжка, яны абавязваюць працягваць пачатае...

**Гутарыла Алена ЛОБАН, метадыст тэлецэнтра РЦЭВД.**

**P. S. Калі кагосьці зацікавіла методыка выкладання Ю. М. Хітрага, тэлецэнтр Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей можа прапанаваць відэафільм аб ёй.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**У жніўні спаўняецца:**

**100 гадоў з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Таццяны ЛАПАЦІНАЙ. Працавала ў калгасе; вядомая як арганізатар і кіраўнік Азершчынскага народнага хору. З яе ўдзелам у калектыве быў створаны шэраг песень. Памерла ў 1980 г.**

●

**50 гадоў заслужанаму дзеячу мастацтваў рэспублікі Уладзіміру МАШЭНСКАМУ. З 1971 г. працаваў дырыжорам ДАВТа БССР. Пад яго музычным кіраўніцтвам пастаўлены оперы і балеты беларускіх кампазітараў Д. Смольскага («Сівая легенда»), Г. Вагнера («Сцяжынаю жыцця», «Пасля балю»), Я. Глебава («Ціль Уленшпігель»), творы В. Моцарта («Дон Жуан», «Чарадзейная флейта») і інш. Два гады таму адышоў ад свецкай працы і прысвяціў сябе дзейнасці на ніве праваслаўя.**

●

**70 гадоў заслужанаму дзеячу культуры БССР Адаму ЧОПЧЫЦУ. У 1960—83 гг. быў мастацкім кіраўніком Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца «Нёман», які ў той перыяд дасягнуў значных поспехаў і вядомасці, выязджаў з канцэртамі за межы СССР. Стаў педагог, аўтар вучэбных ды метадычных дапаможнікаў па спевах.**

КІНО

# ГЛЯДАЧ З БУДУЧЫНІ

**Юрый Хашчавацкі — адзін з найбольш цікавых беларускіх кінематаграфістаў; ён аднолькава лёгка пачуваецца ў жанры дакументальнага кіно і ў сферы мастацкага фільма; з нейкаю запраграмаванасцю адзін раз у два гады ён атрымлівае прызы прэстыжных кіна- і тэлефестываляў; гэтаксама рэгулярна яму даводзіцца змагацца за тое, каб яго фільмы ўбачылі...**

**Адбылася ўжо прэм'ера мастацкага фільма Ю. Хашчавацкага «Прамежкавы чалавек» — фільм вострасатырычны і па-свойму трагічны ў кантэксце сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыі. Гэты фільм і стаў пунктам адліку ў інтэрв'ю, якое Юрый Хашчавацкі даў старшыні Савета мінскіх кінаклубаў Юрыю Стулаву.**

**Ю. СТУЛАЎ: Уяўляецца, што вашы фільмы, пры ўсёй іхняй адрознасці, даследуюць, галоўным, супярэчнасці жыцця, спрадвечную барацьбу дабра і зла. Вы пагадзіліся б з такім вызначэннем вашай творчасці?**

**Ю. Хашчавацкі:** У аснове любога творчага канфлікту заўсёды барацьба дабра і зла. Гэта задужа шырокае вызначэнне. Напэўна, трэба вызначаць вузей. Змаганне за асобу — гэта асноўная тэматыка ўсіх маіх фільмаў: «Ціхае жыццё ў Глыбокім» (атрымаў Гран-пры ў Кіеве ў 1985 г.) і «Упарты чалавек» (фільм, якому не пашанцавала: яго паказалі ў міжсезонне, а да фестывалю 1987 года я ўжо зняў фільм «Тут быў Крылоў»; па ўмовах фестывалю можна было прадставіць толькі адзін фільм, ды я абраў «Крылова», хоць «Упартага чалавека» я люблю не менш). Што да «Крылова», дык у гэтым фільме я падаю канфлікт «сцірання» асобы, затоптвання яе — сталінізм у дзеянні, прычым не той, звыклы, які мы зараз выкрываем; у «Крылове» пра Сталіна няма нічога, але — пра дух сталінізму... Горай за ўсё, што наша школьная сістэма практычна не змянілася (анархіі стала крыху больш), па-ранейшаму ўбівае ў галовы дзяцей усё тыя ж ідэалагічныя штампы, устаноўкі, з тым жа поспехам! Камуністычная утопія — дабро гэта ці зло? Калі глядзець на яе як на філасофію, якая шмат у чым змыкаецца з хрысціянствам, дык гэта дабро. Але што сатварылі ў свеце ў імя гэтага дабра?! Мо чалавецтву наогул трэба адмовіцца ад ідэалогіі? Ідэалогія, як я для сябе сфармуляваў, — гэта звар'яцелая сястра філасофіі; гэткая філасофія для малпаў, лінейка для розуму: ты, маўляў, маеш права мысліць на дзесяць сантыметраў. Больш шкалы няма.

**— Многія з вашых фільмаў — ярка сатырычныя. Гэта асаблівасць вашай мастацкай манеры ці адлюстраванне погляду на гісторыю і сучаснасць?**

— Гэта ўласцівасць характару. Адзін з пабочных вынікаў той сістэмы, у якой мы жылі, — крайняе адурманьванне ўсіх людзей, а гэткая чалавечая пачварнасць вымагае міласэрнасці ды — смеху. Мяне, напрыклад, смешаць шмат якія вырадкі ад палітыкі ці ідэалогіі...

**— На вашу думку, ці магчымы абмежаванні ў творчасці мастака ці — толькі самаабмежаванні?**

— Усё залежыць ад даўжыні... ланцуга. Можа быць такі доўгі і бязважкі ланцуг, што мы яго не адчуваем. Могуць быць ланцугі карацейшыя, але мы настолькі да іх прывыклі, што лічым іх працягам сябе. Магчыма, неабходны толькі маральны закон унутры чалавека? Я не веру ў ідэальную, выключную свабоду мастака, таму што ў свеце, дзе пануе ідэалогія (а яна пануе ці не ўсюды), мастак не можа быць абсалютна свабодны, хоць захапляе само імкненне мастака да свабоды. Калі мы гаворым пра яе, нельга рахавацца з самімі сабой — ранейшымі. Людзі раптам пачынаюць успамінаць, што той ці іншы гаварыў або пісаў або рабіў за застойным ці там за польскім часам... У маім падыходзе да чалавека няма ніякіх застойных гадоў. Няхай ён і кан'юнктуршчык і пайшоў на кампраміс з сабой — няхай прыкідваецца дэмакратам. Можа ж шчаслівa жыць грамадства, у якім 20 працэнтаў дэмакратаў, а астатнія 80 прыкідваюцца імі? Не сумняваюся, што заходняя дэмакратыя менавіта на гэтым і трымаецца. Дэмакратаў робіцца ўсё больш і больш!

МУЗЫКА

# «Здзівіць можна толькі якасцю...»

**Гэтага чалавека наўрад ці трэба прадстаўляць беларускім аматарам музыкі. Народны артыст РСФСР, заслужаны артыст БССР дырыжор Віктар ДУБРОЎСКІ добра вядомы ў нас у рэспубліцы. Нядаўна ён узначаліў Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР.**

**— Віктар Паўлавіч, вы працавалі з гэтым калектывам як галоўны дырыжор у пачатку свайго творчага шляху і цяпер зноў прыйшлі сюды — ужо сталым, прызнаным майстрам. Ваша творчае крэда кіраўніка аркестра?**

— Нядаўна ў нас адбыўся сход калектыву, дзе я ставіў перад аркестрам найпершую задачу: пастаянна, на кожным канцэрце падтрымліваць высокі мастацкі ўзровень выканання. Кожны музыкант павінен працаваць над сваёй партыяй, ведаць яе ўжо да рэпетыцыі. Увесь калектыў павінен разумець, што ў сучасным свеце, пры велізарнай плыні інфармацыі, усюды ведаюць пра ўсё, і здзівіць за мяжой проста нацыянальнай прыналежнасцю ці экзотыкай нікога нельга. Здзівіць сёння можна толькі высокай мастацкай якасцю. Гэта найпершая задача для музыкантаў.

Калі ж гаварыць пра творчыя планы, то я бачу ў рабоце аркестра тры этапы. Перш за ўсё — правядзенне на самым высокім узроўні канцэртаў для горада Мінска. Другі этап — выступленні ў залах Маскоўскай і Ленінградскай філармоній, дзе аркестр павінен заваяваць высокі аўтарытэт, які не саступае аўтарытэту праслаўленых аркестраў. І, нарэшце, трэці этап — гэта выхад на замежную публіку. Можна сказаць паўжартам, але і досыць сур'ёзна, так: праграма-мінімум — Мінск, Масква, Ленінград; праграма-максімум — выступленне ў Карнегі-холе ў Нью-Ёрку. Гэта першая канцэртная зала свету. Я спадзяюся, мы такую праграму ажыццявім.

**— Якія творчыя перспектывы ў аркестра?**

— Ёсць патэнцыял, які трэба пашыраць. Нядаўна мы правялі конкурснае праслухоўванне. Наплыў канкурсантаў быў багаты. Выступіўшы па БТ у перадачы «Метраном», мастацкі кіраўнік філармоніі Ю. Гільдзюк патлумачыў гэта тым, што цяпер, калі я ўзначаліў аркестр, у музыкантаў з'явілася надзея на цікавую працу. І, вядома, вялікае значэнне мае прэстыж калектыву, які ўзняўся пасля зарубежных гастроляў.

**— Ці ёсць цяжкасці ў рабоце аркестра?**

— Так, прычым гэта цяжкасці матэрыяльна-тэхнічныя. Тэрмінова неабходна абнаўленне інструментарыя аркестра. Не хапае струнаў і нават каніфолі. Духавыя інструменты з-за старасці робяцца непрыгоднымі. У нас ёсць спадзяванне купіць новыя інструменты на выдаткаваныя Міністэрствам культуры 20 тысяч інвалютных рублёў. Павінен сказаць, што міністэрства выяўляе разуменне патрэб і праблем аркестра і па меры магчымасці памагае іх вырашыць.

**— А цяпер — пытанне, якое пэўна цікавіць прыхільнікаў вашай творчасці: ці будзе Дуброўскі сумяшчаць работу ў двух аркестрах? Вы ж з'яўляецеся яшчэ і кіраўніком Смаленскага аркестра народных інструментаў.**

— Буду, і вось чаму: мне ўдалося літаральна з нічога стварыць прафесійны калектыў у Смаленску, а на радзіме ж Глінкі амаль 70 гадоў не было аркестра. Цяпер смаляне проста не ўяўляюць сабе жыцця без яго. У краіне калектыў таксама за кароткі час набыў прызнанне і папулярнасць. Мы выступалі ў зале Ленінградскай філармоніі, і цяпер гэта будзе традыцыяй. Нашы канцэрты, як вядома, праходзілі і ў Мінску, спадзяюся, што выступіць тут Смаленскі аркестр і ў будучым сезоне. Калі ж я пакіну гэты калектыў цяпер, ён проста распадзецца...

**— Вернемся да гаворкі пра беларускі сімфанічны аркестр. Сёлета ў сакавіку ён пад вашым кіраўніцтвам з вялікім поспехам выступіў на міжнародным «Фестывалі фестываляў» у Італіі. Як бы вы ацанілі мастацкі ўзровень калектыву ў параўнанні з замежнымі ўдзельнікамі фестывалю?**

— «Фестываль фестываляў» доўжыцца некалькі месяцаў, пачынаючы са снежня, таму рабіць нейкія параўнанні з іншымі аркестрамі цяжка. Але адно тое, што мы былі запрошаны для ўдзелу ў заключным канцэрце, сведчыць пра вялікі гонар, аказаны калектыву. Наша выступленне прайшло з трыумфам і сталася сапраўднай сенсацыяй. Кіраўнікі фестывалю сказалі пасля канцэрта літаральна наступнае: «Вы адкрылі вароты ў Рым». Ну, а вынікам сталася запрашэнне ў Рым у канцы 1991 года. 5 снежня аркестр дасць там канцэрт з буйнейшымі опернымі спевакамі свету. Праграма будзе прадстаўлена італьянскай опернай меладрамай. У сакавіку наступнага года мы запрошаны для ўдзелу ў «Днях Расіі» на Мальце. Будзе выканана руская і савецкая музыка.

**— Што трэба, каб заваяваць у сябе на радзіме, на Беларусі, такое ж прызнанне і аўтарытэт, якія былі заваяваны ў Італіі?**

— Трэба ўнесці новы струмень у музычнае жыццё горада, падняць папулярнасць сімфанічнага аркестра сярод мінчукоў. Гэтага можна дасягнуць толькі высокай якасцю выканання.

**— А таксама цікавымі праграмамі, у мастацтве складання якіх вы вядомы як вялікі майстар?**

— Складанне канцэртнай праграмы — гэта першы этап творча-

**У народнай байцы кемлівы селянін на кплівае пытанне пана, колькі можа каштаваць карціна вялікага майстра, што вісіць у панскай гасцёўні (хай госці пасмяюцца з мужыка, як той глупства скажа), не доўга думаючы, назваў дакладную цану: «Недаясі — за кус хлеба аддасі».**

# «ПАГОНЯ»: МАСТАЦТВА І ПАЛІТЫКА

І САПРАЎДЫ, дзе голад і холад, там не да мастацтва. Там рана ці позна пойдуць з малатка фамільныя *каштоўнасці. Эканамічны заняпад* дзяржавы звычайна спараджае танны распродаж нацыянальнай культурнай спадчыны і народных талентаў. Прыклад — айчынная гісторыя. Усё, што сёння так вабіць нас у гэтым салодкім слове «Захад», не ў *малой ступені зроблена* рукамі нашых суайчыннікаў, якія аказаліся «лішнімі» людзьмі ў «дзяржаве рабочых і сялян». Яны пакідалі радзіму хвалямі. Першая, другая, трэцяя хваля... Сёння пакуюць чамаданы эмігранты чацвёртай хвалі. *Гэта адбываецца ва ўсіх частках* Савецкага Саюза, — і ў адносна дэмакратычнай (пасля абрання Б. Ельцына прэзідэнтам) Расіі, і ў адносна незалежных рэспубліках Балтыі, і ў традыцыйна ўзорна-паказальнай калгасна-індустрыяльнай БССР.

Ці надыдзе калі-небудзь час *збіраць раскіданыя па свеце* камяні беларускага дома?.. Не раней, чым трывала паўстане глыбока ўкаранёны ў родную зямлю падмурак незалежнасці. А пакуль што наш суверэнітэт напісаны на паперы. Яго хісткую пабудову на пяску лёгка зруйнаваць ветрам з Усходу, з імперскага Цэнтра.

Нам сёння не да мастацтва. Але мастакі і мастацтвазнаўцы, прыхільнікі незалежнасці Беларускай дзяржавы думаюць інакш. Аб'яднаўшыся ў суполку пад красамоўным назовам «Пагоня», яны абвясцілі сваёй мэтай збліжэнне высокага мастацтва з сумленнай палітыкай. Яны маюць намер праз мастацтва ўплываць на грамадскую свядомасць і такім чынам набліжаць здзяйсненне сваіх палітычных і духоўных мэтаў.



А. ШАТЭРНІК. «Кірыла Тураўскі».



А. МАРАЧКІН. «Зянон».

Я не стану пералічваць прозвішчы сяброў «Пагоні», бо сама паслядоўнасць пераліку можа быць успрынята як нейкая субардынацыя. Але адзначу, што касцяк суполкі складаюць тыя, хто не ў вельмі спрыяльныя для беларушчыны часы, названыя цяпер застойнымі, замест таго, каб рабіць грошы «як усе нармальныя людзі», уздымалі ў мастацтве неперспектыўныя, з пункту гледжання «сацыяльнага заказу», і небяспечныя, на думку наменклатурных ідэолагаў, беларускія тэмы. За што атрымалі мянушку «этнографісты», па тых часах абразлівую—як пры Хрушчове «фармалісты», а пры Сталіне «касмапаліты». Доўгі час словы «этнаграфізм» і «нацыяналізм» у свядомасці наменклатуры былі сінонімамі.

Недзе на сярэдзіну 70-х гадоў выпадае фарміраванне маіх уласных поглядаў на мастацтва, маіх прыхільнасцяў, густаў. Таму сёння многія з'явы ў культурным і сацыяльным жыцці я бачу нібыта адразу ў двух часавых вымярэннях. Погляд «з мінулага» дорыць мне радасць і ўпэўненасць у будучым: у 70-я я і ўявіць не мог, што калі-небудзь будуць выставы пад бел-чырвона-белым сцягам, а партрэты беларускіх князёў і ваяроў не будуць выклікаць абуральных запісаў у «кнізе водгукаў» і даносаў у КДБ. Перамены, што адбыліся за 10—15 гадоў, у кантэксце беларускай рэчаіснасці падаюцца вельмі маштабнымі. А калі азірнуцца вакол сябе на пачатку 90-х, дык падстаў для радасці значна менее, а ўпэўненасць у будучым змяняецца асцярожнаю надзеяй. Бо за гэты час перамены ў блізкім і далёкім свеце адбываліся больш імкліва, чым на Беларусі, і сёння мы зноў рызыкуем апынуцца ў хвасце падзей, спазніцца на свой гістарычны цягнік.



Я. КУЛІК. Паводле кнігі У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

У рэспубліках Балтыі, на Украіне, у Закаўказзі культурнае адраджэнне з самага пачатку «перабудовы» мела тэндэнцыю збліжэння з нацыянальна- і *сацыяльна-вызваленчай* барацьбою. Нездарма інтэлігенты-гуманітарыі ў названых рэгіёнах адыгрываюць сёння важную ролю ў дэмакратычна абраных парламентах. Назаву хоць бы імёны журналіста Дайніса Іванса і прафесара кан*серваторыі Вітаўтаса Ландбергіса*. На прыкладзе Балтыі, блізкай Беларусі этнічна і гістарычна, відавочна, які палітычны эфект мае зліццё культурна-адраджэнскай і сацыяльна-вызваленчай плыняў. Вынік сёння — узбагачэнне сіл, кан*салідацыя нацыі, а заўтра* — заваёва нацыянальнай незалежнасці. Тое, што для Балтыі надзённае практычнае пытанне, для Беларусі пакуль што—тэарэтычная мажлівасць.

З'яўленнем новай мастацкай ці літаратурнай суполкі сёння нікога не здзівіш. І ўсё ж я вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што з'яўленне «Пагоні» — падзея неардынарная. Бо ўтварэнне «Нямігі», «Верасня», «Галіны», «Традыцыі» — не больш як унутраная перастаноўка кадраў у Саюзе мастакоў Беларусі. Гэта сведчанне крызіснай сітуацыі ў СМ Беларусі, але змена шыльдаў ніяк не кранае асноў структуры, падпарадкаванай Маскве і цалкам ад яе залежнай.

«Пагоня» — народжана не *столькі крызісам у творчым* саюзе, колькі ўсёй грамадска-палітычнай сітуацыяй на Беларусі. Гэта вымушанае прызнанне ўладамі правоў грамадзянства за тымі, каго наменклатура лічыла «ўнутранай эміграцыяй», адкрыта варожай акупацыйнаму «сацрэалізму». *Мастацтва* «этнаграфістаў» хоць і мела класічна-рэалістычныя формы, па сваім змесце цалкам адпавядае разуменню «андэграунд». Бо беларушчына на Беларусі магла развівацца толькі ў падпольных і паўпадпольных формах.

Сёння «Пагоня» — альтэрнатыва Саюзу мастакоў у межах Саюза мастакоў. У перспектыве — незалежнае Згуртаванне мастакоў Беларусі, што прыйдзе на змену сённяшняму творчаму саюзу. Ужо зараз «Пагоня» вядзе ўласную культурную палітыку. На рахунку суполкі не толькі маштабная мастацкая выстава ў Палацы мастацтваў, але і арганізацыя візіту на Беларусь дачкі вядомага беларускага мастака Ф. Рушчыца спадарыні Барбары Рушчыц, арганізацыя выставы беларускага мастацтва ў Гайнаўцы (Беластоцкае ваяводства) і выставы Міколы Давідзюка, беларускага мастака з Лодзі, у Мастацкім музеі БССР. Для пачатку зусім няблага. А калі яшчэ дадаць, што сябры «Пагоні» ўваходзяць у Сойм БНФ, у рады і арганізацыйныя камітэты новых партый, дык узнікае пытанне — калі ж мастакам займацца мастацтвам? З гэтай нагоды напомню старую ісціну: часу болей у таго, хто яго не мае. У таго, хто вымушаны ашчадна ставіцца да кожнай хвіліны.

«Пагоня» — з'ява тыпова беларуская, у мастацтве нашых суседзяў ёй няма і не можа быць аналагу. Відаць, нідзе, акрамя як на Беларусі, няма такога дэнацыяналізаванага і абыякавага да ўласнага лёсу насельніцтва. А гэта вымушае нацыянальна свядомую інтэлігенцыю часам забываць пра чыста прафесійныя пытанні і рабіць тое, што ў цывілізаваных краінах робяць прафесійныя палітыкі, навукоўцы, настаўнікі. Застаючыся пры гэтым творцамі. Бо высокая ідэя патрабуе мастацкай формы.



Г. СКРЫПНІЧЭНКА. «Страчаныя мроі».



В. БАРАНАЎ. «Беларускія святыя».



Р. СІТНІЦА. «Нясвіж. Здані старога парку».

Выставе «Пагоні» ў Палацы мастацтваў папярэднічала экспазіцыя ленінградскай групы «Міцькі», якая выклікала захапленне ці не ва ўсіх беларускіх авангардыстаў. Сапраўды, «Міцькі» — з'ява па-свойму цікавая, яны чымсьці нагадваюць хіпі 60-х гадоў. Той жа дэманстратыўны нонканфармізм, падкрэсленая неагрэсіўнасць, гэткае бяскрыўднае блазнаванне: *блазну* дазволена тое, за што звычайнаму чалавеку галаву здымуць. Баюся, што пасля першых выстаў, якія можна смела назваць сацыяльнымі акцыямі, беларускі авангард неяк сцішыўся і сёння для яго найбольш прывабным становіцца «міцькоўская» канцэпцыя блазнавання. Менавіта гэтым я тлумачу крытыку выставы «Пагоні» з боку «левых». Я маю на ўвазе артыкул А. Тарановіча і Т. Копшы ў «Чырвонай змене» «Пагоня... за чым?» (6.5—12.5. 1991). Ці ёсць нам, беларусам, патрэба ствараць уласную («нацыянальную») «чарнуху» ў мастацтве? Можа, лепей скарыстаць вопыт цывілізаваных краін, дзе грамадзянін не займаецца бруднай працай, для гэтага існуе кантынгент «замежных рабочых»? Час ад часу можна ладзіць у Мінску выставы мастакоў кшталту «Міцькоў» з суседніх краін і рэспублік, а самім заняцца справамі больш вартымі, больш патрэбнымі нашаму народу.

Тое, што ідэі «Пагоні» маюць будучыню, сведчыць сёлетняя выстава-абарона дыпломных работ тэатральна-мастацкага інстытута, што нядаўна ўпершыню праходзіла ў залах Палаца мастацтваў. Пра яе на старонках «ЛіМа» будзе асобная гаворка. Пакуль жа адзначу тое, што цікаўнасць маладых мастакоў да нацыянальных каранёў прысутнічала якраз у найбольш цікавых, найбольш таленавітых работах. Зразумела, не ўсе выхаванцы мастацкага і мастацка-прамысловага факультэта ўвойдуць у склад суполкі «Пагоня», але хочацца верыць, што ідэя нацыянальнага Адраджэння, прыярытэт нацыянальных каштоўнасцяў стануць вызначальнымі ў творчасці многіх.

Сябры «Пагоні» свядома набліжаюць той час, калі іх суполка стане ўжо непатрэбнай, бо яе мэты будуць дасягнуты, — і можна будзе з чыстым сумленнем абвясціць аб самароспуску. Для таталітарнай сістэмы дэмакратычнае аб'яднанне з гуманістычнай праграмай — феномен, у дэмакратычнай суверэннай Беларусі «Пагоня» была б звычайнай з'явай.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

**У верасні 1990 г. у Кліўлендзе (ЗША) адбылася XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Такія сустрэчы ладзяцца нашай эміграцыяй кожныя два гады па чарзе ў Канадзе і ЗША. Прафесар-фізік з Мінска Ю. ХАДЫКА рэпрэзентаваў у Кліўлендзе Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Надарылася магчымасць пагутарыць з чалавекам складанага лёсу — Антонам Антонавічам ШУКЕЛОЙЦЕМ, былым супрацоўнікам мінскіх музеяў.**

**Прапануем увазе чытачоў фрагменты размовы.**

# МЫ ГЭТАК ШМАТ СТРАЦІЛІ...



**Юры ХАДЫКА.** — Спадар Шукелойць, як вядома, пад час вайны вы ўзначальвалі Беларускі мастацкі музей ў Мінску. Раскажыце, калі ласка, пра людзей, якія ў гады гітлераўскай навалы руплiлiся пра зберажэнне беларускай гістарычнай спадчыны, і, калі можна, пра свой асабісты лёс.

**Антон ШУКЕЛОЙЦЬ.**— Можа, спачатку аб сабе. Я нарадзіўся ў маленькай вёсачцы Якелеўшчыне, за два кіламетры ад Жупран. Мае прадзеды, дзяды, бацькі пахаваны на тых самых могілках, дзе і Францішак Багушэвіч. Сям'я была сурова беларуская. Памятаю, мая маленькая кузынка, прыбегшы ў хату, пачала дэкламаваць верш па-польску, на што мой дзед адразу азваўся: «У маёй хаце не пшыкаць!» Так што мы ведалі, што ў дзедавай хаце трэба гаварыць толькі па-беларуску. Бацька мой, апрача таго, што быў селянін, яшчэ гандляваў лесам. І, каб я не абіваўся ў пачатковых польскіх школах, адразу аддаў мяне ў польскую гімназію ў Ашмянах, дзе я і вучыўся з 1 па 8 клас. Скончыўшы яе ў 1935 годзе, паступіў у Віленскі універсітэт, на гуманістычны факультэт, з галоўнымі прадметамі — славянская філалогія і этнаграфія. Этнаграфію мы вывучалі разам з Г. Цітовічам, пад кіраўніцтвам выдатнага прафесара, паляка з Кракава Казімежа Мушынскага. І, нарэшце, сваю працу я пачаў у 1939 годзе як настаўнік у сярэдняй школе ў Ашмянах.

**Ю. Х.** — Яшчэ да далучэння Заходняй Беларусі?

**А. Ш.** — Я пераехаў, калі Сталін аддаваў Вільню сметанаўскай Летуве, і пачаў працу загадчыка школьнага аддзела, арганізоўваў першыя настаўніцкія курсы, пачаў выкладаць беларускую мову ў той самай гімназіі, якую я скончыў і якую пасля рэарганізавалі ў сярэднюю беларускую школу.

**Ю. Х.** — Але ж гэта не адпаведны ўзровень, гімназія давала лепшую адукацыю?

**А. Ш.** — Калі гаварыць пра матэматычныя прадметы, то савецкая сярэдняя школа, пастаўленая на належным узроўні, давала тыя ж самыя веды. У сэнсе ж гуманітарным там не было лаціны, ды і замежныя мовы выкладаліся значна слабей. Адбыўшы там адзін год настаўнікам і кіраўніком інтэрната для дзяцей без бацькоў, я быў накіраваны ў Мінск на перакваліфікацыю пры Камуністычным інстытуце журналістыкі, дзе быў спецыяльны курс для савецкай адміністрацыі. Вярнуўшыся, я пачаў працаваць школьным інспектарам. У час гэтай працы — перад вайной — я меў непрыемную гісторыю. Пачалі заводзіць расейскія школы. І таму я і мой калега, выпускнік Віленскага універсітэта, яўрэй, які быў сябрам КПЗБ і гадоў шэсць адседзеў у турме, вырашылі пайсці ў райком партыі і паспрабаваць высветліць, чаму так адбываецца, што ўпадаюць нашыя беларускія і яўрэйскія школы. Гутарка наша ў райкоме ішла даволі цікава, і вось у канцы мой калега кажа: «Слухайце, я — марксіст, і мой сябра сацыяліст, але скажыце, бо мы ніяк не знойдзем, дзе ж у Маркса ёсць, што як улада пераходзіць да рабочых, дык школы пераводзяцца на расейскую мову?» Думаю, гэты візіт быў прычынаю таго, што на другі дзень вайны я апынуўся ў савецкай турме, праседзеў у турме ўвесь пачатак вайны і выйшаў адтуль са зламанай пашчэнкай і перабітым бокам. Так я і прыйшоў потым у Мінск, ідучы памалу з усходу, з Крупак. Адпачыўшы, з'явіўся ў Часовую ўправу — яе старшынёй быў доктар Тумаш, калега мой па універсітэце. Ён запрасіў мяне на працу ў Мінску. За час нямецкай акупацыі я меў два плюсы: першае — што выйшаў з савецкай турмы, а другое — хай сабе і не вельмі добра, але ведаў нямецкую мову. Мінск быў спалены, знішчаны, але архівы, бібліятэкі і музеі якраз засталіся непарушаныя. І таму першая справа, якую мне ва ўправе даручылі, — упарадкаванне архіваў ЗАГСа. Потым выявілася бяда ў Гістарычным музеі... Тут я мушу зрабіць папраўку: у савецкіх публікацыях пішацца — «Беларускі дзяржаўны музей». Але ж БДМ быў зліквідаваны адначасна з арыштам Ластоўскага ці, можа, крыху пасля, калі дырэктарам быў Рак-Міхайлоўскі. На яго месцы, а мо незалежна ад яго, быў арганізаваны Беларускі гістарычны музей — як дапаможнік для савецкай гісторыі СССР. У ім было 4 аддзелы: дакласавае грамадства, феадальны лад, капіталізм і сацыялістычнае будаўніцтва. Усе экспанаты з БДМ, якія не ўвайшлі ў рамкі нававторанага музея, аказаліся ў дрывотніку, што стаяў між Юбілейным домам і Архірэйскім домам. Музей жа знаходзіўся ў Архірэйскім доме, які потым быў перароблены ў Дом афіцэраў.

**Ю. Х.** — Калі ж адбылася такая своеасаблівая «рэарганізацыя» музея?

**А. Ш.** —Ластоўскага арыштавалі, здаецца, у 1930-м годзе. То гэта адбывалася недзе ў 1931—1932 гг. Але вернемся да закранутае намі тэмы: пачатак акупацыі заспеў музеі і архівы ў добрым стане, бо нямецкія вайсковыя часці накладалі на іх пячаткі ды йшлі далей. І лёс гэтых інстытуцыяў затым залежаў ад таго, хто з іх працаўнікоў застаўся ў Мінску. Архівы ў даваенны час — не ведаю, як цяпер — належалі НКУС. Ясна, што кіраўнікі архіва збеглі, але там засталася маладая працаўніца Дзяржынская з архіўнай адукацыяй (вучылася ў Маскве ці ў Ленінградзе), безумоўна, беспартыйная, і вельмі энергічная. Яна змагалася за сваю ўстанову з немцамі, з усімі, хто стараўся сунуць туды нос, і ёй удалося не толькі захаваць у добрым стане архівы, але, больш таго — яе архівы працавалі: яна збірала новыя экспанаты, сцягвала туды тыя, што выходзілі, друкі, газеты, кніжкі. Калі б падобныя ёй людзі былі ў іншых інстытуцыях, многае б захавалася. Скажам, у Ленінскай бібліятэцы заставалася некалькі жанчын — прозвішчаў ужо не прыгадаю,— якія валодалі нямецкай, французскай мовамі, і яны калекцыі захавалі. Кнігазборы пазней былі ўзяты пад ахову нямецкай спецыяльнай інстытуцыяй, што называлася «Айзенштадт Рэйхляйтэр Розенберг», а потым часткова вывезены немцамі, часткова разрабаваны мінчукамі.

**Ю. Х.** — Ці правільна я зразумеў, што пры ўваходзе немцаў у Мінск ніякага рабаўніцтва экспазіцый і сховішчаў Гістарычнага музея не было?

**А. Ш.** — Так, не было. Палажылі пячатку і ад'ехалі. Што тычыцца Гістарычнага музея, то дырэктарам да вайны там быў Гершанок, партыйны чалавек, які займаў багата розных пасад у адміністрацыі культурных і асветных установаў. Па-мойму, ён быў нават наркомам асветы. І яшчэ нешта адзінаццаць чалавек там былі або партыйныя, або камсамольцы, і яны ўсе выехалі. Адзіным беспартыйным чалавекам там быў мастак Віер, з паходжання малдаванін (ці бесараб), які ў Мінск прыехаў маладым хлопцам следам за дзядзькам, здаецца, настаяцелем праваслаўнага манастыра. Ён прыехаў як мастак — працаваць у цэрквах. Здольны творца, ён быў накіраваны Ластоўскім, дырэктарам музея, у Маскву да вельмі вядомага прафесара на перакваліфікацыю ў кансерватары. Дом спецыялістаў — гэта на рагу цяперашняга Ленінскага праспекта і Даўгабродскай вуліцы, у якім жыў Віер, згарэў на пачатку вайны, і мастак уцёк на вёску да сваякоў. У Мінск з'явіўся праз месяц пасля мяне і прыйшоў у гарадскую ўправу. А музей якраз быў без апекі: нямецкую пячатку знялі і яго рабаваў, хто хацеў. Але Віер, вярнуўшыся, склікаў моладзь — студэнтаў, школьнікаў — і яны пачалі наводзіць там парадак. Праўда, у Віера на той час быў адзін недахоп, з-за чаго яго пачалі тэрарызаваць: ён не ведаў нямецкай мовы. Таму гарадская ўправа і паслала мяне ў музей — як чалавека, які адначасна мог даць адпор і немцам, і сваім хуліганам.

**Ю. Х.** — Калі гэта было?

**А. Ш.** — Недзе ў канцы жніўня. А ў кастрычніку музеем заапекаваўся ўжо Генеральны камісарыят,— тады немцы выдалі мне паперку, што я з'яўляюся мясцовым «кіраўніком музея». Віер заняўся выкінутымі абразамі, што захоўваліся ў дрывотніку. Дарэчы, дрывотнікам апекаваўся вельмі сімпатычны стары, што паліў печы, Кішлевіч, які быў, здаецца, ці не ў Ваньковічаў фурманам, а калі Ваньковічы выехалі, застаўся пры музеі. Вельмі цікавы чалавек, ён стараўся тыя абразы як мага перахоўваць, накрываў іх мяшкамі. Паколькі для Мінска цікавы быў абраз Мінскай божае маці, то Віер гэтую ікону забраў дахаты, адрэстаўраваў яе, аднавіў.

**Ю. Х.** — Ці мела ў той час Мінская Божая маці шату?

**А. Ш.** — Не, не мела. Гаварылася, што яе срэбная рыза загінула невядома дзе. Віер жа падняў з дошкі ўвесь ляўкас, фарбу і паклаў асобна. Дошку прасушыў, праалеіў і, цалкам яе аднавіўшы, зноў вярнуў на месца ляўкас і жывапіс. Страты былі залітыя ім светлым ляўкасам. Абраз мастак падрыхтаваў для перадачы ў адноўленую царкву — Кацярынінскую, ці, як ёй тады аднавілі стары назоў, святых Пётры і Паўла. Пра гэтую ікону ёсць, дарэчы, мой артыкул у «Беларусе» і нарыс нашага пісьменніка Юркі Віцьбіча, вельмі веруючага чалавека, які пераехаў з Віцебска ў Мінск. Між іншым, рэстаўрацыя паказала шмат цікавых рэчаў: абраз Божае маці, як высветлілася, спачатку быў меншага фармату, потым яго пабольшылі, далучыўшы дошкі з левага боку і знізу. Потым быў праведзены скіпетр — які цяпер ёсць і які дамаляваны пазней, недзе ў XVI стагоддзі. Сама ікона вельмі старая, паходзіць з Візантыі, спачатку была перавезена ў Кіеў, а з Кіева — у Мінск.

**Ю. Х.** — Ці ёсць дакументальныя пацвярджэнні візантыйскага паходжання абраза?

**А. Ш.** — Толькі тое, што выказвалася аўтарамі ў навуковых публікацыях. Дарэчы, у большасці савецкіх стварэнне іконы датуецца XVI стагоддзем, але гэта толькі дата яе аднаўлення. Гэта быў адзіны абраз, адноўлены Г. Віерам і вернуты царкве. Потым Віер намаляваў некалькі іканастасаў у мінскіх цэрквах— св. Пётры і Паўла, чыгуначнай царкве. А ў музеі займаўся рэстаўрацыяй абразоў. Іншыя іконы з дрывотніку мною і Віерам былі перанесены ў музей, які знаходзіўся ў цяперашнім Доме работнікаў мастацтва, склалі ўсе ў сутарэнні, зрабіўшы там сховішча абразоў і карцін. Там знайшліся і работы савецкай тэматыкі, як «Партызаны» Волкава, карціна Якобі (ці не «Варфаламееўская ноч»). Усе творы былі накрыты мяшкамі, каб не асабліва лазілі і глядзелі немцы. Там жа былі і зараз апублікаваныя абразы магілёўскай і віцебскай школ (у «Жывапісе Беларусі XII—XVIII стагоддзяў»), і дзве вельмі вядомыя іконы «Нараджэнне Хрыста» віцебскай і «Нараджэнне Божай маці» магілёўскай школы... Час ішоў, і вось аднойчы, прыйшоўшы на працу, я ўбачыў, што дрывотніка няма. Засталіся толькі трэскі—у яго трапіла савецкая бомба. На шчасце, карцін там ужо не было, але былі іншыя розныя рэчы, прывезеныя з замка Радзівілаў, між іншым, быў алтар св. Паўла, былі яшчэ некаторыя, мошчы. Пасля гэтай бамбардзіроўкі я вырашыў тры найбольш каштоўныя, па словах Віера і майго дарадніка мастака Керзіна, абразы забраць дадому (жыў я на ўскраіне, на Ратамскай вуліцы). Гэта былі «Нараджэнне Божай маці» і «Нараджэнне Хрыста», а таксама «Суд» магілёўскай школы. Апошняя ікона не вярнулася, вы мусіце яе адшукаць...

У музеі я быў да 1944 г., калі мяне зноў паклікалі ў школьніцтва. Працаўнікі-беларусы там засталіся, але на чале музея была пастаўлена немка, якая потым і займалася эвакуацыяй экспанатаў.

**Ю. Х.** — Вы ведалі, у якія мясціны Германіі вывозілася калекцыя?

**А. Ш.** — Разумееце, выехаўшы ў Нямеччыну і маючы згаданыя прывілеі, як савецкая турма ў мінулым ды веданне мовы, я стараўся за музеем сачыць, ды і ў мяне ж былі тры іконы. Спачатку я быў пры вывезеных бібліятэках — музея там не было. А апынуліся мы ў сілезскім гарадку Рацібары (так ён зваўся па-нямецку). Сярод працаўнікоў там быў адзін вельмі цікавы чалавек, па прозвішчы Натуш, з этнаграфічных славян у Нямеччыне, лужычанін. Я быў з ім у сяброўскіх адносінах і даручыў яму свае тры іконы, якія мелі быць адвезены ў маленькае мястэчка Гёштэд-Андонаў, за 50 кіламетраў ад Аўгусбурга. Там знаходзіўся вялікі старасвецкі нямецкі замак, куды былі звезены музеі з Украіны, Беларусі, са Смаленшчыны. Пры музеях пакінулі некаторых працаўнікоў, якія засведчылі, што яны «фольксдойчэ»—г. зн. што маюць нейкую сямейную сувязь з немцамі. Калі я туды прыехаў і спаткаў там тую працаўніцу з Мінска, са штаба Розенберга (забыўся яе прозвішча, яно, здаецца, пададзена ў савецкіх выданнях палітычнага характару, такіх, як «Саўдзельнікі ў злачынствах»), то пачуў ад яе, што тут сапраўды ёсць нашы музейныя рэчы і што яна будзе апекавацца імі да канца. Тады я ўладзіўся працаваць конюхам у нямецкі фальварак, каб знаходзіцца блізка ад гэтага замка. Калі ж скончылася вайна, і гэтая частка Нямеччыны была занята амерыканцамі, я адразу ж з'явіўся да амерыканскага ваеннага адміністратара і паведаміў, што тут ёсць беларускія музейныя зборы, што я хацеў бы быць пры іх. Ад яго я пачуў, што ў амерыканцаў з савецкімі ёсць спецыяльная дамова пра ўтварэнне камісіі па рээвакуацыі музейных рэчаў, і мне было прапанавана з ёй звязацца. Між іншым, потым справа вяртання музеяў павярнулся так, што ёй займаліся не спецыялісты, а тыя людзі, што праводзілі рэпатрыяцыю палонных—НКУС, КДБ ці якая яшчэ ўстанова,—не ведаю. Словам, яны везлі ўсе гэтыя творы мастацтва зваленыя, бы кучы смецця, трацілі іх па дарозе. На гэтую тэму ёсць артыкул адной з вучоных-супрацоўніц украінскіх музеяў, Корвіш, надрукаваны ва ўкраінскай навуковай літаратуры на эміграцыі. Яна якраз працавала ў часы рээвакуацыі ў тым замку, дзе знаходзіліся і нашы экспанаты.

**Ю. Х.** — І вы далучылі вывезеныя вамі тры абразы да размешчаных у замку збораў?

**А. Ш.** — Так, і з іх два я бачу цяпер у вашых найноўшых навуковых публікацыях, а аднаго, найлепшага з магілёўскай школы, няма.

Цяпер аб іншых музеях у Мінску. Перш-наперш пра заалагічны музей пры універсітэце. Ягоны дырэктар, прафесар універсітэта Яўген Вязовіч, заолаг, быў вельмі сімпатычны чалавек. Не ведаю, ці валодаў ён нямецкаю моваю, але за свой музей увесь час змагаўся і бараніў яго, хоць калекцыі ў гэты час перакідвалі з месца на месца і ўрэшце перавез-

# «Просім памілаваць...»

## Пісьмы сялян-вернікаў да А. Р. Чарвякова

Цяпер часта можна пачуць ад старых: «Мы памыляліся, нас падманвалі, але была вера, а ў што верыце вы, маладыя?» Сапраўды, у што верыць нам? Перш чым адказаць, ці, правільней, паспрабаваць адказаць на гэтае пытанне, пракруцім кола гісторыі назад гадоў на 60. Паглядзім, у што верылі тагачасныя маладыя і якую веру адкінулі.

Архівы захавалі многія пісьмы, скаргі, пратэсты, заявы савецкіх людзей, якія, не выступаючы адкрыта супраць палітыкі Савецкай улады, прасілі не ламаць іх уклад, паважаць старасць, праявіць міласэрнасць і дазволіць захаваць звычаі бацькоў і дзядоў. Прывядзём некаторыя з іх, напісаныя на імя А. Р. Чарвякова ў 1929—1930 гг.

У сакавіку 1929 г. сяляне вёсак Собалеўка і Стайкі Пуцімільскага сельсавета Клімавіцкага раёна Магілёўскай акругі паведамлялі:

**«2 января 1926 г. в наш приход обратился священник Сергей Алексеевич Мельников, оборванный и с сумой за плечами. Мы приняли его и полюбили за простое обращение с народом. Он ничего не брал за требы и довольствовался добровольными подаяниями, от чего всегда испытывал нужду. Летом он работал с нами в поле, учил как лучше выращивать то или другое. Своими руками он починил дорогу, по которой раньше невозмжно было пройти. Главное, он был с нами не как священник, а как равный товарищ. За два года мы никогда не слышали от него ни одного плохого отзыва о власти и строительстве государства. 3 ноября 1929 г. его арестовали, а за что не знаем. Больше мы о нем ничего не слышали, где он и как существует без всяких средств...»**

Штуршком да напісання гэтага ліста на імя Старшыні ЦВК БССР А. Р. Чарвякова паслужыў артыкул у «Известиях» (№ 73, 1929 г.), у якім сцвярджалася, што закрыццё цэркваў спыняецца, што Савецкая ўлада не праследуе служыцеляў культаў. Як не зразумець сялян Клімавіцкага раёна, у якіх на вачах разбураліся не толькі звыклыя стэрэатыпы, уяўленні аб жыцці, трашчаў і ламаўся ўнутраны ўклад цэлага пакалення! Адбывалася татальнае «расшчапленне душы». У лісце змяшчаецца сапраўдная мальба аб заступніцтве:

**«Мы, нижеподписавшиеся, просим Вас, как единственного защитника о помощи во имя революции разрешить вести службу в Соболевской церкви и вернуть из заключения нашего священника Мельникова. 98% прихожан желают отправлять религиозные обряды. а Вы, если любите своих подвластных и слушающих Вас граждан, верните нам просимого и успокойте стариков. Если же Мельников виноват, то с него достаточно того, что он испытал за 5 месяцев заключения. Его нужно простить, ведь он еще молод (26 лет) и не опытен в жизни, а главное нетрудоспособен к тяжелому труду и страдает туберкулезом позвоночника...»**

Больш за ўсё ўражваюць словы: «если вы любите своих подвластных и слушающих Вас граждан». Што гэта? Рэшткі царысцкіх ілюзій ці пакланенне перад уладай, за якой сіла? Хутчэй за ўсё не ведалі сяляне, што яшчэ У. І. Ленін у сваім звароце «Да вясковай беднаты» на зары Савецкай улады пісаў: «Каждый должен иметь полную свободу не только держаться какой угодно веры, но и распространять любую веру и менять веру. Ни один чиновник не должен даже иметь права спрашивать кого ни на есть о вере: это дело совести...»

Ліст быў падпісаны дзесяткамі чалавек. На паперы засталіся няўмелыя, крывыя подпісы людзей, якія, магчыма, проста завучылі, як пішуцца іх прозвішчы.

Другі ліст, таксама напісаны на імя А. Р. Чарвякова, вызначаецца пісьменнасцю, правільнасцю пабудовы і выкладання думкі аўтара. Выразны роўны почырк указваў на чалавека, які прывык часта карыстацца пяром і паперай. Хадайніцтва грамадзянкі Ганны Гашкевіч з сяла Пакалюбіч Гомельскага павета пачыналася словамі:



**«Мой муж, священник церкви с. Поналюбич Гашкевич Платон Николаевич, 65 лет от роду, был арестован и выслан в г. Мезень Архангельского округа по обвинению в контрреволюции. Таких фактов для обвинения не было, ибо он кроме церковной службы никогда и ничем не занимался. Последние пять лет он болел почками и сердцем и даже обязанности священника исполнял с трудом. Тюрьма, этапная отправка, пеший переход от Архангельска до Мезеня сказались на старческом организме и теперь у него развилась водянка ног и живота, что неизбежно приведет к скорой смерти...»**

Жанчына, якая адчаялася, але захавала чалавечую годнасць, прасіла ў старшыні ЦВК БССР, вышэйшага паводле Канстытуцыі органа ўлады Беларусі, уратаваць яе мужа ад гібелі, праявіць міласэрнасць, тым больш, што гаворка ішла пра чалавека пажылага ўзросту, цяжка хворага і невінаватага:

**«Я знаю, что высылка не должна таить в себе смертного приговора. Он обречен, что не может входить в план изоляции. Веря в то, что Советское государство, строя новую жизнь, не склонно к ненужным жестокостям, что описанные мною факты являются перегибом общей политики на местах, прошу Вас очень, как только может просить исстрадавшийся человек, спасти моего мужа от неминуемой смерти и возвратить домой по месту жительства. 13 апреля 1930 г.»**

На жаль, Ганна Гашкевіч памылялася. Апісаныя ёю факты не з'яўляліся «перегибом общей политики на местах», а былі вынікам дзяржаўнай палітыкі супраць іншадумства. Толькі нядаўна ў савецкім друку было абнародавана, што да 1922 г. у СССР па суду было расстраляна белага духавенства 1691 чалавек, манахаў — 1962, манахінь і паслушніц — 3447 чалавек, а без суда расстраляна не менш за 15 тысяч чалавек, ліквідавана больш за 700 манастыроў. Салавецкі манастыр тады ж стаў першым канцлагерам...

15 мая 1932 г. дэкрэтам урада за подпісам Сталіна была аб'яўлена «бязбожная пяцігодка», якая ставіла за мэту: да 1 мая 1937 г. імя Бога павінна быць забыта. Перапіс 1937 г. паказаў, што дзве трэці сельскага і адна трэць гарадскога насельніцтва шчыра верылі ў Бога. Пяцігодка была перанесена і новы падлік павінен быў адбыцца ў 1942 г. Страшна прамовіць: вайна спыніла здзек.

Ціск на веруючых рабіўся не толькі шляхам расправы ці пагроз. У ход былі пушчаны ўсе меры, ажно да вытанчанай падаткавай палітыкі, што прыводзіла да хуткага знішчэння культу. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць заява на адрас ЦВК БССР членаў прыходскага Савета Зборскай царквы Асіповіцкага раёна Бабруйскай акругі:

**«В газетах пишут, что вера и церкви не преследуются, а на деле мы видим издевательство над священниками и религией. На них такие налоги. чтобы закрыть церковь. В декабре 1929 г. наш священник выплатил долг в сумме 194 руб., а через месяц получил новый в 213 руб. (!). Штрафуют за неподачу декларации на 50 руб., последнюю же подарили священнину члены приходского Совета. Мы пожаловались в райисполком и нас заверили, что это ошибка и дело будет пересмотрено, но мы не верим».**

Ад імя ўсіх прыхаджан была просьба асабіста да А. Р. Чарвякова расследаваць няправільныя паводзіны (злоўжыванне) Асіповіцкага РВК, вызначыць усе даходы іх святара, якія не перавышалі на справе 190 руб. у год, зняць несправядлівыя штрафы і пакараць вінаватых. Прашэнне было замацавана пяццю подпісамі, унізе дата — 6 красавіка 1930 г.

Усе тры пісьмы нашых суайчыннікаў — яркія і тыповыя сведчанні эпохі — былі знойдзены аўтарам у Цэнтральным партыйным архіве Кампартыі Беларусі (фонд 4, вопіс 14, справа 9, лісты 98—102) зусім нядаўна. Яны не пакідаюць нас абыякавымі, уражваюць сваёй шчырасцю. Людзі разумелі, што з імі наўрад ці будуць лічыцца, але спадзяваліся. Сапраўды, надзея памірае апошняй.

На працягу дзесяцігоддзяў мы знаходзіліся ў стане неаб'яўленай грамадзянскай вайны. Мы вышуквалі ў сабе шпіёнаў, шкоднікаў, касмапалітаў, масонаў і сіяністаў. Мы расправаўляліся з веруючымі. Разбураная царква — шрам у душы веруючага, але разбураны храм разбэшчваў і тых, хто яго ламаў. Цяпер трэба аб'яднаць намаганні ўсіх грамадскіх сіл. Царкве — з яе вопытам і аўтарытэтам — належыць тут важнае месца.

Напэўна, няма большай адвагі, чым, прызнаючы наяўнасць самых розных поглядаў, доблесцяў і заган, аб'яднацца, каб стаць цывілізаваным і прававым грамадствам. Ці не гэтаму нас вучыць уласная гісторыя?

**Леанід СМІЛАВІЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Марцін КОЎЗКІ**

# Доля праўды

**А хто там ляжыць па ярах, па лагах з рэвальвернымі кулямі ў галавах? — Беларусы. А чаго ж, чаго ж захацелася ім, акрыялым душой, ды сляпым і глухім? — Людзьмі звацца!**

●

**Беларуская нацыя, горны твой шлях камуністычнага пераўтварэння, знікла мова ў родных сваіх берагах, засталося адно вымаўленне.**

●

**Сон. На галоўнай плошчы ў сталіцы, на галоўных могілках дзяржавы, з самае галоўнае трыбуны я глядзеў на вір універмага. Крок ці болей ад Крамля да рынку, ды ў гневе ад майго ўчынку нехта пацягнуў мяне ўгору. І здалася мне маленькай плошча, могілкі здаліся не на месцы, недарэчнай над труной трыбуна і далёкім рынак ад Крамля.**

●

**Гісторыя даўгабуду ў назвах кантор? «Кастрбуд», «Сусветбуд», «Сацбуд», «Камбуд», «Марнабуд», «Перабуд», «Нештабуд», «Капбуд». Кіраўнікі? А ўсё тыя ж.**

●

**Глядзіце, як граюць артысты, прабачце, цяпер «дзеячы», у кіраўнікоў і міністраў, папляскайце ім, гледачы!**

●

**Жыве і не кепска літаратура эпохі вялікае макулатуры! А колькі герояў у нашай адзінай культуры другаснай сыравіны!**

●

**Уяўны здабытак партыі суцэльная калектывізацыя. Уяўны? Ды гэтак партыя хрыбет зламала нацыі!**

●

**Што запасіш, мой харошы, на вякі, панясуць услед не грошы, а вянкі. Ды і скарб з тваёй бляшанкі не прызнаюць потым банкі, бо ўжо профіль на паперках не такі. Грошы — смецце, грошы — вошы, грошы — бруд, камуністы абвясцілі ім прысуд, і калі ты, мой харошы, эканом, чымся грошы, лепш збірай металалом.**

●

**У духу сацрэалізму апеў наш шлях да камунізму. Атрымаў узнагароды. Цяпер патрабуе новыя — за сатырычнае адлюстраванне тагачаснай рэчаіснасці.**

●

**Адзін першы, хоць і не лепшы, галоўны, хоць і не галаўны, камандуе, хоць і не мае моцы. Другі лепшы, хоць і не першы, галаўны, хоць і не галоўны, мае моц, хоць і не камандуе. Замяніць першага другім? Можна было б, ды каб другі не стаў першым.**

●

**— Цемрадзь, — скардзіліся нямыя, — пагаварыць нельга. Заззяе сонца, і мы нешта скажам.**

●

**Нават камуністы цяпер дэмакраты — апелююць да народа, распрацоўваюць законы... Хіба што сакратары ў іх не Сакраты і мысліцелі не Платоны.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12